 




# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 43 (765) БЕЛАСТОК 25 КАСТРЫЧНІКА 1970 г. ЦАНА 60 гр.


## ПЛЕНУМ ГП БГКТ

Пленум Беларускага таварыства, прысвечаны пытанням грамадскага мастацкага руху, прайшоў у рабочай атмасферы. З дакладам выступіў член Прэзідыума ГП БГКТ, старшыня камісіі культуры ГП Мікалай Матэйчык. Абшырныя фрагменты з даклада змесцім у наступным нумары. Сёння прадстаўляем чытачу дыскусію на пленуме. Галасы выступаючых прыводзім у парадку іх выступлення.

*Юрка Бусловіч — Варшава.*

Паставіў некалькі прапаноў: запрасіць папулярную рэдакцыю радыёвай групы «Вясёлы аўтобус» у Гарадок, каб тут зрабіць праграму, арганізаваць спаборніцтвы на кубак ГП, арганізаваць сустрэчы з былымі дзеячамі БГКТ, падрыхтаваць з'езд выпускнікоў у Гайнаўцы і ў Бельску.

*Мікалай Гайдук — Бельск.*

Пашырыць культурна-асветную працу на пачатковыя школы. Бачыць ён не вялікія калектывы, але малыя групы: тэатры паэзіі, жывога слова. Прывіваць моладзі любоў да літаратуры і культурнай працы. Распачаць трэба працу над мясцовым фальклорам. На пачатак хоць пару калектываў, якія б працавалі на гэтым матэрыяле. «Наша культурная праца без такой дзейнасці не споўніць свайго задання», — сказаў М. Гайдук.

*Браніслаў Ігнасяк — Беласток, сакратар ВКЗЗ.*

Тав. Ігнасяк шырока і сімпатычна гаварыў аб супольнай базе для дзейнасці прафсаюзаў і таварыства. Сказаў: «Замала мы праводзілі супольных мерапрыемстваў. Культурны фестываль прафсаюзаў трэба выкарыстаць, каб паказаць дасягненні, але і каб разбудзіць дзеянне сярод людзей. Я заўсёды маю прэтэнзію да нашых культурных установ, што яны не часта ўзнімаюць беларускую праблематыку там, дзе можна, напрыклад у Гайнаўцы». Тав. Ігнасяк падтрымаў думку аб стварэнні фальклорных груп, якія з забыцця выцягвалі б багатую рэгіянальную культуру беластоцкай зямлі.

*Віктар Швед — Варшава.*

Падтрымаў думку аб выкарыстоўванні фальклору ў мастацкім руху, як найважнейшым яго рэпертуарным базісе. На пачатак аднак фальклорныя групы найлепш арганізаваць не ў тэрэне, а ў Беластоку, як паказальныя.

*Алесь Баршчэўскі — Варшава.*

Гаварыў аб, на яго думку, непакоячай з'яве, што ў апошні час моцна паменшылася колькасць аўтарскіх сустрэч, арганізаваных ГП для членаў «Белавежы». А. Баршчэўскі бачыць, за прыкладам варшаўскага пісьменніцкага асяроддзя, кантакты з рабочым класам Беласточчыны, якія будуць спрыяць літаратурнай працы пісьменніка. Трэба ўзняць таксама працу лектарскай групы ГП. Праводзіць сустрэчы не толькі аўтарскія, але і даклады на палітычныя тэмы, ды даваць іх людзям на беларускай мове. «Я адчуў, што людзям па-беларуску такія даклады вельмі падабаюцца».

*Ольга Падлашчык — Беласток, прадстаўнік ВП ЗМВ.*

Гаварыла аб неабходнасці супольнага дзеяння і супрацоўніцтва паміж гурткамі ЗМВ і БГКТ у вёсках.

*Зофія Трыбульская — Беласток, сакратар ВП ТППР.*

«Вельмі цэнім вялікі ўклад працы членаў БГКТ у ідэю польска-савецкай дружбы. БГКТ замала выкарыстоўвае магчымасці ТППР. У апошнія гады на конкурсах савецкай песні не бачым песні беларускай. Трэба яе ўвесці ў X сёлетні конкурс». Тав. З. Трыбульская прадставіла формы дапамогі Беларускаму таварыству з боку ТППР: у кантактах з рознымі асобамі, якія з Беларусі прыязджаюць у Польшчу, у рэпертуары, у лектарах і г.д.

*(Працяг на стар. 7)*




20 верасня г.г. у Гарадку адбылося ўрачыстае наданне пачатковай школе імя партызан — братоў М. і А Храноўскіх. На ўрачыстасці прысутнічалі: загадчык аддзела прапаганды і агітацыі Ваяводскага камітэта ПАРП Валенты Авер, куратар школьнай акругі Эдвард Крынскі, старшыня прэзідыума ПРН у Беластоку Міхал Карнелюк, сакратар ПК ПАРП Ян Трынішэўскі, былыя партызаны — браты па зброі. Ніжэй падаем рэпартаж аб гэтай урачыстасці.

* ✲ *

Будынак пачатковай школы ў Гарадку як бы памаладзеў. З гучнагаварыцеляў плывуць партызанскія і ваенныя песні, маршы. Ля галоўнага ўваходу да школы выстраілася школьная моладзь, а далей бацькі, жыхары Гарадка. Перад школьным будынкам паяўляюцца госці. Сярод іх былыя партызаны — землякі, браты па зброі партызан М. і А. Храноўскіх: Раман Мордань з Валіл, Язэп Храноўскі з Дзернякова, Язэп Бурса з Навасёлак, Люба Трахімчык-Яроцкая і іншыя. Ваенны аркестр іграе дзяржаўны гімн. Урачыстасць адкрывае кіраўнік школы Ян Бараноўскі. Чарговы момант урачыстасці — гэта ўручэнне матцы партызанбратоў Надзеі Храноўскай Кавалерскага Крыжа Ордэна Адраджэння Польшчы, якім узнагародзіла яе Рада Дзяржавы за ўласцівае выхаванне сыноўзмагароў, за дапамогу партызанам, за перанесеныя мукі. Крыж уручыў старшыня М. Карнелюк, а затым выступіў з прамоваю былы партызан гарадоцкай зямлі Аляксей Яроцкі. Пасля адчытання падінспектарам Сцяпанам Крэнтоўскім акту надання імя школе, В. Авер адсланіў мемуарную дошку.

* ✲ *

— Часта так бывае, што лепей знаем гісторыю барацьбы і змагання на далёкіх землях, чымсці ў сябе, а ў гэтым выпадку — на гарадоцкай зямлі, — гаварыў А. Яроцкі.

Дарага, вельмі дарага трэба было плаціць за свабоду. Гарадоцкая зямля аддала жыццё больш 20 чалавек, якія загінулі ў гітлераўскіх катоўнях або ў непасрэдных узброеных сутычках з ворагам. Мала таго. Вёска Папоўка за супрацоўніцтва і дапамогу партызанам заплаціла сваім існаваннем і жыццём 36-ці жыхароў, у тым ліку старцаў, жанчын і дзяцей.

У барацьбе з акупантам асаблівая падзяка належыцца сям'і Надзеі Храноўскай, жонкі і маці трох асоб, якія палажылі сваё жыццё на алтары Айчыны. Сцяпан Храноўскі, як і іншыя камуністы, перахоўваў у сваіх забудаваннях савецкага афіцэра Сяргея Лёўкіна і яго непаўналетнюю дачку, дзейнічаў у канспірацыі. Аднак агентура гестапа выкрыла гэта. 8 красавіка 1942 г. абодва былі арыштаваны і 10 красавіка расстраляны каля Гарадка.

Дваццацігадовы сын Міхал пасля гэтага ўступае ў рады партызан. — Яго патрыятызм, нянавісць да ворага, адвага, адчуванне людской крыўды, высокая мараль і скромнасць у штодзённым жыцці былі ўзорам для іншых партызан, часта на многа старэйшых за яго не толькі ўзростам, але і жыццёвым вопытам, — успамінае Яроцкі. 9 верасня 1943 г. пасля ўданага падрыву нямецкага поезда каля вёскі Саколе гіне ад варожай кулі Міхась. Малодшы брат Аляксандр, быў арыштаваны і прабываў у арышце гарадоцкіх жандармаў разам з маткаю. Пасля звальнення надалей супрацоўнічае з партызанамі, але адначасова налягае, каб прыняць яго ў лясны атрад. Кіраўніцтва атрада адкладае гэтую справу, ведаючы трагедыю сям'і і хочучы ашчадзіць Аляксандра, як апекуна старэючай маткі, (якая не ведала яшчэ аб смерці старэйшага сына). Аляксандр быў аднак рашучы. Прагнуў помсты за крыўду блізкіх і далёкіх. 14 ліпеня 1944 г. гіне смерцю героя ў барацьбе з гітлераўскімі войскамі каля Каралёвага Мосту.



*Маці герояў Надзея Храноўская.*

Працяг на стар. 4

## Новыя вершы

* ✲ *

На лысай дзялянцы бруснічнік марнее,
Калянае лісце яго ледзь ліпіць,
І нават ласі насцярожана неяк
Баяцца цяпер на яго наступіць.

І недзе ў балотным хмызу ім прысніцца,
Калі яны жвачку натомлена жвуць, —
Ізноўку палаюць світальна брусніцы,
І дрэвы, як рогі, балюча растуць.

*Анатоль Грачанікаў*



## МОЙ РОДНЫ КУТ . . .

*...Краснавесь, Бельскага павета.*

*Фота Цаф — Сянько.*

 

# Падзеі ◇ Здарэнні ◇ Факты ◇ Каментарыі ◇ Весткі



## СВЕТ

### ПАДЗЕІ Ў БАЛІВІІ

4 кастрычніка ў балівійскай сталіцы — Ла Пасе быў узняты ваенны антыўрадавы мяцеж. Змоўшчыкі запатрабавалі адстаўкі прэзідэнта Аванда і перадачы ўлады ваеннай юнце. Аднак падзеі ў Балівіі, разыграныя па сцэнарыі, у глыбокай тайне падрыхтаваным у Вашынгтоне, прынялі нечаканы для змоўшчыкаў абарот. Яны прывялі ў рух магутныя патрыятычныя сілы. Патрыятычныя сілы падтрымалі кіраўніка гэтых сіл генерала Хуана Хасе Тарэса, які ўзяў на сябе абавязкі прэзідэнта краіны пасля таго, як Аванда папрасіў палітычнае прыстанішча ў аргенцінскага ўрада.

7 кастрычніка Тарэс аб'явіў аб намеры сфарміраваць «народны нацыяналістычны ўрад», які будзе абапірацца на рабочых, сялян, салдат і інтэлігенцыю.

Кампартыя Балівіі, а таксама балівійскі рабочы цэнтр — буйнейшае ў краіне прафсаюзнае аб'яднанне — заявілі аб сваёй падтрымцы генерала Тарэса. Аднак рэакцыйныя сілы ў Балівіі не адмаўляюцца ад спроб працягваць барацьбу супраць патрыятычных сіл. У сувязі з гэтым пакуль што яшчэ цяжка дакладна сказаць, як у далейшым будзе выглядаць сітуацыя ў гэтай краіне. Як вынікае з прэс-канферэнцыі Тарэса, падкрэсліў ён неабходнасць агульнага павышэння ўзроўню жыцця працоўных. Прэзідэнт заявіў, што Балівія будзе паважаць заключаныя раней пагадненні з іншымі дзяржавамі, між іншым, сказаў і аб выплаце кампенсацыі амерыканскай нафтавай кампаніі «Галф ойл», маёмасць якой была нацыяналізавана ў гэтай краіне. Мы, падкрэсліў прэзідэнт, будзем праводзіць незалежную знешнюю палітыку і падтрымліваць адносіны з усімі сацыялістычнымі дзяржавамі.

Аднак падзеі, якія адбываюцца ў Балівіі, лішні раз сведчаць аб тым, што ў Лацінскай Амерыцы з кожным днём усё шырэй разгортваецца беспаваротны працэс: лацінскія краіны імкнуцца вырвацца з-пад жалезнай пяты амерыканскіх манаполій.

### ПРАЦЭС КПГ

Працэс, які пачаўся ў Фленсбургу (ФРГ) па справе аб канфіскацыі праекта Праграмы Камуністычнай партыі Германіі (КПГ), спынен на нявызначаны час. Ініцыятыўны камітэт за легалізацыю КПГ прадставіў суду шматлікія доказы незаконнасці канфіскацыі праекта Праграмы Камуністычнай партыі Германіі. На суд у якасці экспертаў былі запрошаны вядомыя юрысты — спецыялісты па дзяржаўнаму праву з ФРГ і іншых краін.

Яўна адчуваючы хісткасць сваіх пазіцый, прадстаўнікі абвінавачання заявілі аб сваёй адмове прымаць удзел у працэсе і пакінулі залу суда.

### РАДЫ ФКП

37.000 працоўных уступіла ў рады Французскай кампартыі ў 1970 годзе, паведаміў член Палітбюро ФКП А. В'ерге ў інтэрв'ю газеце «Юманітэ».

(ак)



## БССР

### З ЧЭХАСЛАВАКІІ

Дэлегацыя партыйных работнікаў Камуністычнай партыі Чэхаславакіі на чале з намеснікам загадчыка аддзела грамадскіх арганізацый ЦК КПЧ Вацлавам Насекам наведала Беларусь. Чэхаславацкія госці былі прыняты сакратаром ЦК Кампартыі Беларусі Ф. Сурганавым.

### ДАТЭРМІНОВА

Калектыў Мінскага ордэна Леніна аўтамабільнага завода дабіўся выдатных поспехаў у сацыялістычным спаборніцтве ў гонар стагоддзя з дня нараджэння У. І. Леніна. Датэрмінова выкананы пяцігадовы план па аб'ёму прамысловай вытворчасці.

Да канца года прадпрыемства дасць гаспадарцы дадатковай вытворчасці на дзесяткі мільёнаў рублёў аўтамабіляў, прычэпаў, паўпрычэпаў, запасовых частак і вырабаў міжзаводской каапераці.

### ТРЭЦІМ

У трэцім камітэце Генеральнай Асамблеі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у Н'ю-Йорку выступіла дэлегат Беларускай ССР Лідзія Кудраўцава, заслужаная настаўніца Беларусі, загадчыца Мінскага гарадскога аддзела народнай асветы. У сваім выступленні Л. Кудраўцава падрабязна спынілася на пытаннях пастаноўкі сярэдняй і вышэйшай адукацыі ў БССР.

### КАМІСІІ

Адбылося пасяджэнне пастаяннай камісіі па культурна-асветнай рабоце Вярхоўнага Савета Беларускай ССР. Разгледжана пытанне аб стане работы музеяў рэспублікі па камуністычнаму выхаванню насельніцтва.

### СЕМІНАР

У Мінску адбыўся ўсесаюзны семінар начальнікаў бюро таварных экспертыз. У яго рабоце прынялі ўдзел прадстаўнікі Усесаюзнай гандлёвай палаты, яе аддзяленняў у саюзных рэспубліках.

Удзельнікі семінара праслухалі шэраг лекцый, абмеркавалі задачы бюро тэхнічных экспертыз, інструкцый аб парадку праверкі якасці імпартных і айчынных тавараў, абмяняліся вопытам працы, правялі паказальныя экспертызы.

### ПАДРУЧНІКІ

Надрукаваны падручнікі спеву для беларускіх школ. Першыя падручнікі выйшлі для класаў I і IV.

### ЧЭМПІЯНАТ

Перад фіналам у V-ай Спартакіядзе народаў СССР адбываецца чэмпіянат Беларусі па веласіпеднаму спорту сярод дарослых і юнакоў.

### «МІКРАКЛІМАТ»

Мантаж навейшай аўтаматычнай устаноўкі «Мікраклімат» пачаўся на свінаферме саўгаса «Гарадзішча» Шклоўскага раёна. Два яе магутныя генератары здольны абаграваць свінарнік на дзве тысячы жывёлін.

### ПОЛАЦКІ

Полацкі нафтаперапрацоўчы завод пачаў вытворчасць аміячнай вады для сельскай гаспадаркі.



## ПОЛЬШЧА

### СТЫМУЛЫ

Ва ўсёй краіне ідзе падрыхтоўка да ўвядзення новай сістэмы стымулаў матэрыяльнага зацікаўлення. Адначасова 10 выбраных прадпрыемстваў атрымала ўжо першы вопыт у працы па-новаму: увялі яны новую сістэму заахвочвання да лепшай працы ад 1 ліпеня —пакуль што на прынцыпах эксперыменту. Мэта эксперыменту — праверыць спосабы ўвядзення новай сістэмы, а таксама яе ўступныя эфекты. Асабліва вялікі вопыт сабралі на гэтых прадпрыемствах у галіне сістэмы разлікаў, вядзення ўнутранай дакументацыі, рэгістравання вынікаў, ад якіх залежаць будзе выплочванне ўзнагарод рабочым і г.д.

### У РАДЗЕ МІНІСТРАЎ

Адбылося пасяджэнне Рады Міністраў з удзелам старшынь прэзідыумаў ваяводскіх радаў нарадовых, на якім была ацэнена рэалізацыя важнейшых гаспадарчых заданняў на працягу III чвэрці 1970 года. Ацэнены таксама датыхчасовыя намаганні над увядзеннем у жыццё пастаноў V Пленума ЦК партыі.

### СЛУЖБА ЗДАРОЎЯ

На пленарным пасяджэнні Ваяводскага камітэта партыі ў Познані, прысвечаным праблемам аховы здароўя, з прамоваю выступіў сакратар ЦК партыі Мечыслаў Мочар. Падкрэсліў ён вялікія дасягненні ў ахове здароўя за часы народнай улады, а таксама ўказаў на некаторыя недахопы ў гэтай галіне жыцця. Усё яшчэ ў нас даволі высокая смяротнасць дзяцей, узнікаюць час ад часу розныя мясцовыя эпідэміі, наглядаецца недастатковы гігіенічны стан многіх раёнаў краіны, 25,7 працэнтаў рэстаранаў і сталовых знаходзіцца ў неадпаведным санітарным стане. Істотнай праблемай з'яўляецца таксама барацьба з забруджваннем паветра і вады. Тав. Мочар указаў на неабходнасць барацьбы з праявамі бюракратыі ў службе здароўя.

### ФАРФОР

Польскі фарфор прадаецца ў 43 розных краінах свету. Нядаўна адкрыта новае фарфорнае прадпрыемства ў Касцежыне.

### ІНВЕСТЫЦЫІ

Вонкавы інвестыцыйны кантроль паказаў, што толькі кожная трэцяя прамысловая інвестыцыя дасягае ў тэрміне прадбачаную ў плане моц. У большасці інвестыцый іх прадукцыйныя эфекты значна спозненыя ў параўнанні з планаванымі.

### ПОЛЬШЧА — ФРГ

15 кастрычніка падпісаны шматгадовы дагавор аб гандлёвым абмене, гаспадарчым і навукова-тэхнічным супрацоўніцтве паміж Польшчай і ФРГ. Дагавор акрэслівае агульныя рамкі ўзаемных гаспадарчых адносін да 1974 года. У дагаворы ўрад ФРГ абавязаўся да паступовага знясення імпартных абмежаванняў, якія існавалі яшчэ ў гандлі з Польшчай.

(п)



## ВАЯВОДСТВА

### Р. СТШАЛЕЦКІ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

У мінулым тыдні Беласточчыну наведаў член Палітбюро ЦК, сакратар ЦК ПАРП тав. Рышард Стшалецкі. Разам з членам ЦК, кіраўніком арганізацыйнага аддзела ЦК тав. Э. Бабюхам і членам ЦК, І сакратаром ВК у Беластоку тав. А. Лашэвічам, а таксама ў акружэнні прадстаўнікоў ваяводскіх і гарадскіх улад Рышард Стшалецкі наведаў фабрыку машыннага абсталявання (ФПіУ) і доследную пляцоўку па пнеўматычных машынах камбіната «Понар — Бял.» Пасля агляду фабрыкі госці сустрэліся з перадавым актывам фабрыкі. Тав. Р. Стшалецкі цікавіўся, на колькі калектыў усёй фабрыкі знаёмы з новай гаспадарчай сістэмай, асабліва ўвядзеннем эканамічнага рахунку ў брыгадах, аддзелах і на ўсім прадпрыемстве. У сваім выступленні тав. Р. Стшалецкі высока ацаніў працу калектыву ФПіУ, якая з маленькага варштату вырасла ў фабрыку з профілем дакладнага машынабудавання, з высокай тэхналогіяй прадукцыі і добрымі спецыялістамі. Звярнуў ён таксама ўвагу на справы выхавання і адукацыі маладых рабочых.

У гэты ж дзень тав. Р. Стшалецкі сустрэўся ў будынку Прэзідыума ВРН з прадстаўнікамі перадавога партыйнага і адміністрацыйнага актыву нашага ваяводства.

На наступны дзень прабывання на Беласточчыне тав. Р. Стшалецкі разам з тав. Э. Бабюхам, тав. А. Лашэвічам і сакратаром ВК партыі А. Младзяноўскім наведалі Сувалкі. Тут госці пабывалі на фабрыцы струнабетонаў, на фабрыцы стружкавых пліт і фабрыцы № 3 беластоцкага мэблевага прадпрыемства. На сустрэчы з актывам гэтых фабрык Рышард Стшалецкі звярнуў увагу на праблему кваліфікацыйнай падрыхтоўкі новых рабочых, вельмі адчувальную ў Сувалках, заахвоціў інжынерна-тэхнічныя кадры да большай смеласці ў галіне вырашэння праблем тэхнічнага прагрэсу, ставячы за прыклад інжынераў беластоцкай фабрыкі машыннага абсталявання.

### НА ПРЫКЛАДЗЕ ВВП

На фабрыцы дакладных вырабаў у Чорнай Беластоцкай (ВВП) адбылася нарада сакратароў фабрычных камітэтаў і сакратароў партыйных арганізацый прамысловых прадпрыемстваў нашага ваяводства. Нарада была прысвечана формам і метадам візуальнай прапаганды новай сістэмы гаспадарчага разліку на прадпрыемствах. На нарадзе шмат месца было прысвечана эстэтыцы візуальнай прапаганды і яе эфектам у выглядзе працы грамадскім чынам і актыўнасці калектываў фабрык.

### ПАРАДЫ Ў ВЫХАВАННІ МОЛАДЗІ

Зноў пасля летняга перапынку пачала сваю працу выхаваўчая парадня пры Ваяводскім праўленні лігі жанчын. Група спецыялістаў (педагог, псіхолаг, лекар-педыятр і іншыя) грамадскім чынам даюць парады, як паступіць у цяжкіх, складаных выпадках пры выхаванні дзяцей. Працуе гэта ўстанова ў кожную сераду ад гадз. 16 да 18.

(яч)




NIEDZIELA 25.X.

7.55 Program dnia; 8.00 TV Kurs Rolniczy: „Nowoczesne metody pielęgnacji i konserwacji maszyn"; 8.40 „Przypominamy, radzimy"; 9.00 Dla młodych widzów: TV Klub Śmiałych — „Złota piłka"; 10.45 „Piosenka dla Ciebie"; 11.35 PKF; 11.50 „Obraz kobiety w sztuce rosyjskiej i radzieckiej" („Spotkanie z rosyjskim muzeum"; 12.20 Dziennik; 12.35 „Przemiany"; 13.05 Teatrzyk dla przedszkolaków: „Wycieczka" — bajka rosyjska w oprac. A. Chodorowskiej; 13.45 „W starym kinie"; 14.40 „Studio popularnych piosenek" (Berlin); 16.00 „Wielka gra"; 16.55 „Klub Sześciu Kontynentów"; 17.45 „Melodie Wielkiego Ekranu"; 18.30 „Niebezpieczne związki"; 18.45 Dobranoc; 19.00 Koncert Laureatów VIII Międzynarodowego Konkursu Pianistycznego im. Fr. Chopina. Transmisja z Filharmonii Narodowej w Warszawie; W przerwie ok. 20.15 Dziennik; 22.00 Magazyn sportowy.

PONIEDZIAŁEK 26.X.

15.20 i 23.05 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka; 16.25 Program dnia; 16.30 Dziennik; 16.40 Dla dzieci: „Zwierzyniec"; 17.30 „Echo stadionu"; 17.55 Magazyn Postępu Technicznego; 18.25 „Spacerkiem po kinach"; 19.00 „Dziewczęta z Korpusu Oświaty" — film Tele-Aru; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 Teatr TV: J. S. Stawiński — „Godzina szczytu"; 21.15 „Generałowie pozostali" — program dokument.; 21.45 Dziennik; 22.00 Sprawozdanie z Mistrzostw Świata w gimnastyce — ćwiczenia dowolne mężczyzn (Lublana).

WTOREK 27.X.

9.55 Dla szkół: (kl. II lic.) Język polski — A. Mickiewicz „Dziady"; 10.40 „Bracia Sarojanowie" — film fab. radz.; 11.25 Przerwa; 12.45 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: „Jak powstaje mleko"; 13.15 Przerwa; 15.20 i 23.05 Politechnika TV I roku. Matematyka; 16.25 Program dnia; 16.30 Dziennik; 16.45 Sprawozdanie z Finału Mistrzostw Świata w gimnastyce kobiet (Lublana); 18.00 Telewizyjny Ekran Młodych; 19.00 „Nadchodzi jesień" — film; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 „Bracia Sarojanowie" — film fab. radz.; 21.00 Transmisja Finału Mistrzostw Świata w gimnastyce mężczyzn (Lublana); 22.45 Dziennik.

ŚRODA 28.X.

9.00 Dla szkół: (kl. VIII) Historia — „Wielki Październik i jego konsekwencje"; 9.30 Przerwa; 9.55 Dla szkół: (kl. VII) Historia — „Naczelnik Kościuszko"; 10.30 „W pogoni za szczęściem" — film TV ang. („Saga rodu Forsytów"); 11.20 Przerwa; 12.45 „Wybieramy zawód"; 13.15 Przerwa; 15.20 i 22.35 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka; 16.25 Program dnia; 16.30 Dziennik; 16.40 Dla młodych widzów: „Aula"; 17.10 Magazyn ITP; 17.20 „Za kierownicą"; 17.50 PKF; 18.00 „Częstochowskie prząśniczki" — rep.; 18.25 „Sylwetki X Muzy" — Janusz Kłosiński; 19.00 TV Kurier Warszawski; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 „W pogoni za szczęściem" — film TV ang. („Saga rodu Forsytów"); 20.55 „Światowid"; 21.25 „Julie London i jej goście" — film rozrywkowy; 22.15 Dziennik.

CZWARTEK 29.X.

8.15 Matematyka w szkole: „Równoległość w przestrzeni trójwymiarowej" — wariant II; 8.45 Przerwa; 9.55 Dla szkół: (kl. IV lic.) Język polski — „Polska poezja współczesna"; 10.25 Przerwa; 10.55 Dla szkół: (kl. VI) Historia — „Akademia Krakowska"; 11.25 Przerwa; 11.55 Dla szkół: (kl. VII i VIII) Język polski — „Radio"; 12.45 Dla szkół: (kl. III lic.) Język polski — „Tetmajer, Kasprowicz, Staff"; 13.15 Przerwa; 15.20 i 22.45 Politechnika TV I roku. Geometria wykreślna; 16.25 Program dnia; 16.30 Dziennik; 16.40 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem"; 17.45 „Kombinat pracuje"; 18.15 „Jesienią" — program estradowy; 18.45 „Przypominamy, radzimy"; 18.55 „Psków" — film radz.; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 „Pięć do jednego" — film kryminalny TV ang.; 21.05 „Dobrzy, lepsi i najlepsi". Wykonawcy — studenci i absolwenci szkół muzycznych Krakowa, Kielc i Rzeszowa; 22.05 „W" — film dokumentalny; 22.25 Dziennik.

PIĄTEK 30.X.

10.00 „Pięć do jednego" — film fab. TV ang.; 10.50 „Powrót do rzeczywistości" — film franc. („Szczęście małżeńskie"); 11.15 Przerwa; 15.20 i 22.40 Politechnika TV I roku. Matematyka; 16.25 Program dnia; 16.30 Dziennik; 16.40 Dla dzieci: „Pora na Telesfora"; 17.35 „Reklama w piosence"; 18.00 „Z kamerą w pole"; 18.30 „Konkurs baletowy w Warnie" — film bułg.; 19.00 TV Kurier Mazowiecki; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 „Powrót do rzeczywistości" — film TV franc. („Szczęście małżeńskie"); 20.30 „Kraj"; 21.10 Teatr TV: W. Hugo — „Lukrecja Borgia"; 22.20 Dziennik.

SOBOTA 31.X.

10.00 „La Strada" — film fab. wł.; 11.45 Przerwa; 15.15 Program dnia; 15.20 TV Kurs Rolniczy: „Organizacja i metodyka pracy gromadzkiej służby rolnej"; 15.55 Program tygodnia; 16.15 „Oferty"; 16.30 Dziennik; 16.40 Dla młodych widzów: „Dym w lesie" — film fab. radz.; 17.40 „Spotkania z przyrodą"; 18.05 Rep. film.; 18.40 „Wielcy znani i nieznani" — „Dzieło profesora Malinowskiego"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Monitor; 20.20 Międzynarodowy Festiwal Piosenki „Przyjaźń" (Berlin); 21.20 Dziennik; 21.40 Kino Interesujących Filmów: „La Strada' '— film fab. wł.




PIĄTEK, 23 października

8.05 Nowiny; 8.15 Dla uczniów; 8.45 „Pojedynek". Film fab.; 10.25 Nowiny; 14.55 Program dnia; 15.00 Spektakl teatralny dla dzieci; 16.30 Panorama nowin; 16.50 Koncert; 17.00 Czas; 17.30 Hokej. „Spartak" (Moskwa) — „Dynamo" (Moskwa); 19.45 „Współczesny"; 21.00 Program estradowy; 21.50 Nowiny.

SOBOTA, 24 października

8.00 Program dnia; 8.05 Gimnastyka; 8.30 Nowiny; 8.45 Dla dzieci; 9.15 Przegląd międzynarodowy; 9.30 Śpiewa Maja Krystalińska; 10.05 Wędrowny wiatr; 11.00 Program muzyczny; 11.40 Film fab.; 12.45 Szkatułka muzyczna; 13.00 Uniwersytet TV; 14.30 Spotkania muzyczne; 15.00 Piłka nożna. „Czernomoriec" (Odessa) — CSKA; 16.05 Kronika półwiecza. Rok 1957; 16.45 W eterze „Młodość"; 17.45 „Anna Karenina". Film fab. I seria; 19.00 Czas; 19.30 Komentarz dnia; 19.40 Film; 20.10 50-lecie Teatru im. Kupały; 21.30 Nowiny.

NIEDZIELA, 25 października

8.00 E. Engels i współczesność; 8.30 Konkurs TV; 10.00 Dla uczniów; 11.20 Program muzyczny; 12.00 Połock; 12.20 Film fab.; 13.35 Człowiek i prawo; 14.00 Kiosk muzyczny; 14.30 Dla żołnierzy; 15.00 Klub filmowy; 16.00 Nowiny; 16.05 Dla wsi; 16.30 Pieśni S. Tulikowa; 17.00 Uśmiech bez maski; 17.30 Anna Karenina. Film fab. II seria; 18.40 Czas; 19.10 Mistrzostwa świata w gimnastyce sportowej. Program dowolny (kobiety).

З ЖЫЦЦЯ БГКТ

# • У ЯЧНЕ •


*Пачынаецца афіцыяльная частка.*


*Удзельнікі фэстыну.*

Нельга сказаць, што пагода была літасцівай для арганізатараў фэстыну, які адбыўся ў канцы верасня ў Ячне. Ад самай раніцы ліў дождж. Урачыстасць, якая мела адбыцца на ўлонні прыроды, была перанесена ў памяшканне мясцовай святліцы.

Адразу людзі збіраліся, далікатна гаворачы, не надта энергічна. Здавалася, што на гэты раз вінавата пагода. Неяк у мінулым Дуброўшчына не мела шчасця да абяцаных сюды, на розныя ўрачыстасці, мастацкіх калектываў. Расчаравала нават «Лявоніха», бо не прыязджала. На гэты ж раз пад святліцу ў Ячне заехаў аўтобус з гарадоцкім калектывам.

Чуецца голас арганізатараў: — «Заходзьце, пачынаем!» І вялікая, упрыгожаная зала мясцовага дома культуры запаўняецца прысутнымі. Аж дзіва. Скуль іх аж столькі раптам набралася?

Урачыстасць адкрывае Аляксандр Мазалеўскі, старшыня павятовага праўлення ЗМВ і член праўлення аддзела БГКТ у Дуброве. Вітае прыбыўшых на ўрачыстасць Яна Зенюка — сакратара ГП БГКТ, Сяргея Лукашука — кіраўніка культурна-асветнага аддзела ГП БГКТ, Яна Ляўко — старшыню праўлення аддзела БГКТ у Дуброве Яна Жданука — старшыню Грамадскага праўлення ЗМВ і Яна Канстанчука — сакратара мясцовай партыйнай арганізацыі. З дакладам аб 100-ай гадавіне з дня нараджэння Леніна выступае сакратар сакольскага аддзела БГКТ Анатоль Севасц'янюк.


*Гарадоцкія частушкі.*


*Захапляліся роднаю песняй.*

Афіцыйная частка заканчваецца, і на сцэну ўваходзяць каляровыя і вясёлыя гарадоцкія дзяўчаты. Прывезлі яны людзям з Ячна родную беларускую, рускую ды польскую песні, каб разам павесяліцца, каб годна адсвяткаваць вялікую гадавіну.

Падабаецца прысутным гарадоцкі [illegible]ыў. Чытаю гэта па тварах [illegible]утных, а яны ж шчыр[illegible]аторыя песні калектыў [illegible]аны бісаваць, пры выкон[illegible]і іншых бачу, як некатор[illegible] жанчыны паціху паўтараюц[illegible]ловы за хорам. Напэўна, успамінаюць знаную ім калісьці песню. На заканчэнне канцэрта Ніна Мушынская зачытвае спецыяльна напісаны на гэтую ўрачыстасць сатырычны верш. Усё вельмі падабаецца. На чэсць хора гучныя воплескі і кветкі.

А потым? Потым, як усюды — танцы.

У насельніцтва Ячна засталіся, напэўна, добрыя ўражанні. Але мясцовыя дзеячы БГКТ і культурна-асветныя пры аказіі набралі іншае ахвоты. Менавіта заявілі гарадоцкім гасцям, што ў наступным годзе пастараюцца наведаць Гарадок з уласным дуброўскім мастацкім калектывам.

І гэта вельмі важнае. Трымаем дзеячаў за слова. А моладзь заахвочваем да дзеяння. Трэба ж у канцы сказаць і тое, што фестын быў арганізаваны мясцовымі праўленнямі аддзелаў БГКТ і ЗМВ.

*А. Карпюк*

*фота аўтара*

ЗАПІСКІ З ПАДАРОЖЖА

# • МУЗЕЙ •

Пераезд праз дзяржаўную мяжу звязаны заўсёды з пэўнымі эмоцыямі. Здаем сабе справу, што пакідаем краіну, дзе ўсё для цябе яснае, зразумелае, сваё, уязджаем у іншы свет — свет, дзе іншая мова, іншыя звычаі, законы і парадкі. Факт гэты яшчэ падкрэслівае «цырымонія» пераезду: візіт пагранічнай службы абедзвюх краін, тамажняя кантроля і г.д. Перакрочыўшы польска-чэхаславацкую мяжу, мой цягнік накіраваўся ў Прагу.

Першае сутыкненне з замежнай сталіцай крыху расчароўвае. Чалавек спадзяваецца значна большых нечаканасцей, незвычайнасцей і своеасаблівасцей. Па горадзе шнуруюць трамваі і аўтобусы, людзі недзе спяшаюцца з клункамі, магазінныя выстаўкі, кіёскі з газетамі — усё так, як у Беластоку, Варшаве, кожным іншым вялікім горадзе Польшчы, Еўропы ці нават свету. Каб не іншасць мовы, не адчувалася б тут, уласна кажучы аніякай «іншасці».

Я аднак хачу расказаць не аб Празе, а аб пражскім музеі. Велічэзны гмах музея размешчаны ў самым цэнтры Прагі — на Вацлаўскім Намесці. Музеі як правіла размяшчаюцца ў манументальных старадаўніх будынках. Музеі з'яўляюцца гонарам гарадоў, іх візітнай картай. У музеях зберагаюцца скарбы гарадоў і народаў.

Што беражэ ў сабе манументальны будынак у цэнтры Прагі? У велізарных прасторных залах музея знаходзім ні менш ні больш, толькі... скалы. Скарбы зямлі. Дзесяткі тысяч рознага тыпу мінералаў пачаўшы ад кавалкаў звычайных нашых каменняў па найдаражэйшыя брыльянты і шафіры. Мінералы найбольш дзіўных, незвычайных форм і колераў, а таксама фрагменты звычайнай руды розных металаў. Частка мінералаў, дасканала адшліфаваная, цешыць вока цуднымі ўзорамі колераў, створанымі сіламі прыроды, іншыя — часта значна менш эфектыўныя — прыцягваюць вока наведвальнікаў сваёй высокай вартасцю.

У музеі відаць, як на далоні, адносна нашых паняццяў вартасці і прыгажосці. Вось для прыкладу вітрына, у якой паказаны дакладныя імітацыі найслаўнейшых і найдаражэйшых алмазаў свету. Сярод іх «каралюе» славуты алмаз англійскай каралевы. Стаіць тут натоўп людзей, углядаючыся ў гэты дзіўнай формы камень. Каб не надпіс аднак, інфармуючы наведвальнікаў, што яны аглядаюць, сумняваюся, ці хтосьці звярнуў бы на гэты камень увагу. Вялікі па аб'ёму, бясколерны алмаз, выглядае зусім нецікава. Колькі ён каштуе — чорт яго ведае — можа нават мільён долараў ці фунтаў штэрлінгаў, але я ўпэўнены, што калі б вы сустрэлі гэты алмаз на дарозе, не звярнулі б на яго ўвагі, або — у найлепшым выпадку — адкінулі б нагою з дарогі, як нейкі дзіўны камень, замінаўшы людзям. Алмазам аднак ганарыцца ўся Вялікабрытанія, а яго дакладную копію выстаўляе на паказ свету пражскі музей.

У музеі, апрача мінералаў, ёсць яшчэ археалагічны аддзел. Экспануюцца тут косці і ўсялякія іншыя рэшткі старыны. Вось, для прыкладу, пахаванне нейкага скіфскага ваяўнічага з-прад некалькіх тысяч гадоў таму назад. Засталося па ім не многа: некалькі касцей з нагі, з рукі, фрагменты чэрапа, стальны меч, пашчэрблены часам і жалезныя часткі конскай вупражы. Калісьці гэтыя косці былі часткай жывога чалавека, а гэты меч меў канкрэтнае, грознае прызначэнне. Чалавек, як чалавек, меў свае патрэбы і эмоцыі. Паміраючы падчас бітвы, ці пасля бітвы мог думаць аб усім: ненавідзець ворагаў, шкадаваць блізкіх — але, напэўна, не мог думаць аб тым, што праз некалькі тысяч гадоў пасля яго смерці сотні тысяч людзей будзе аглядаць яго косці, выстаўленыя на паказ у цэнтры сталіцы краіны. І што косці яго выставяць тут на паказ нашчадкі племені, з якім ваяўнічы змагаўся.

Тысячы людзей глядзяць на гэтыя косці з цікаўнасцю і пэўнай, можна б сказаць, сімпатыяй. Хаця ваяўнічы гэты зусім не быў сімпатыкам славянскага племені, наадварот — быў яго заўзятым ворагам. Адкуль жа тады гэтая сімпатыя і ўвага для гэтых касцей і гэтага меча? Адтуль, што косці гэтыя калісьці, даўным даўно, хадзілі па гэтай зямлі, а потым былі ўласнасцю гэтай зямлі, у якой зараз з вялікім намаганнем і ўпорам шукаюць цвёрдага, бліскучага камня, каб памясціць яго побач са старажытнымі касцямі ў зале з надпісам: скарбы чэшкаславацкай зямлі.

*Ул. Паўлючук*

«РЭЙКАВАЯ» ВАЙНА
У НАВАСАДАХ!

# З ВІЛАМІ НА ЦЯГНІК

Ужо звыш 70 год па загуменню Навасад грукочуць цягнікі. Жыхары гэтай вялікай вёскі, якая раскінулася на звыш 2 кіламетры, прывыклі да гэтага суседства і жылі з чыгункай у поўнай згодзе, хаця высокі, трудна даступны чыгуначны насып аддзяляе іх сялібы ад палёў і пашы. Не можна выгнаць кароў і авечак, не можна вывезці гною ці насення, не можна прывесці сена, збожжа ці бульбы — не пераехаўшы гэтай чыгуначнай дарогі.

Аж раптам на весну 1970 года кіраўніцтва варшаўскай акругі чыгункі загадала закрыць адзін з трох пераездаў, якія ад пабудовы гэтай чыгуначнай дарогі знаходзіліся ў вёсцы. Дык успыхнула ў Навасадах «рэйкавая» вайна.

*«...ПКП перакапала нам пераезд, — піша да нас адзін з жыхароў Навасад, — і нас, звыш 40 гаспадароў з сярэдзіны вёскі, вельмі пакрыўдзілі... Мы ж так цяжка працуем, каб дабіцца вышэйшага плёну і палепшыць гадоўлю... Дарагая рэдакцыя! Дапамажы нам у гэтай нашай бядзе... Мы ад ПКП нічога не хочам, мы толькі хочам супрацоўнічаць...»*

Знаходжуся я вось на гэтым закрытым чыгуначным пераездзе. Перада мною даўжэзны эшалон. Стаіць без паравоза, як чалавек без галавы. Што ж, віламі цягніка не пагоніш, дык стаіць, а калі яго забяруць, ніхто не ведае. Мо праз 5 мінут, мо праз гадзіну, а можа і праз 2 дні.

Чыгуначны насып за вёскай Навасады ПКП разбудавала і пашырыла ўжо пасля вайны — у 1955—58 гадах. Да вясны 1970 года стальныя стужкі сямі пар рэек бескарысна іржавелі, а цяпер на павялічаную сетку жалезнай дарогі за Навасадамі штодзень заганяюць таварныя эшалоны, каб там чакалі сваёй чаргі на разгрузку або пагрузку на суседняй станцыі.

Гляджу на гэты даўжэзны эшалон і думаю пра дурноту праектантаў, якія запланавалі пашырэнне сеткі рэек, якраз за агародамі вялікай вёскі. Ці не ведалі яны, што адрэзваюць яе ад палёў і сенажацяў? Насып тут высокі, бо па абодвух яго баках балота. Вада з агародаў не мае куды адплываць і спыняецца ў адхонах. Каб даехаць у поле або на сенажаць, каб выгнаць туды жывёлу, гаспадарам, якія жывуць у цэнтры Навасад, трэба дадаткова ехаць да пераезду з боку беластоцкай шашы амаль адзін кіламетр, а да пераезду з боку Гайнаўкі — каля 400 метраў. Для сялян, якія кожны год перавозяць з поля і на поле дзесяткі тон грузаў, гэтая дадатковая адлегласць вельмі дакучлівая. Ды дарога там, асабліва дарога, якая вядзе ў поле праз «гайнаўскі» пераезд, на адрэзку нейкіх 100 метраў пераўтвараецца проста ў роў, напоўнены балотам і вадой. Няма што думаць, каб пераехаць там трактарам. І канём трудна, нават з парожнім возам.

Дык разумею злосць навасадаўцаў. Вось на маіх вачах некаторыя з іх неяк трывожна пад вагонамі пералазяць праз чыгуначны насып. Ведаюць, што гэтага рабіць нельга, што гэта пагражае калецтвам або смерцю, што чыгуначныя ахраннікі часам спецыяльна засаджваюцца, каб іх лавіць, каб «лупіць» штрафы. Хто аднак не спакусіцца, каб толькі не ісці кіламетр і больш далей. Вось нейкая старэйшая жанчына, якая з кошыкам і матычкай пералазіла пад цягнікам, зачапілася за рэйку і з крыкам паляцела носам у гравій. Іншая жанчына, убачыўшы мяне, неахвотна адыходзіць ад насыпу, каб навокал абыйсці даўжэзны цягнік.

— Я не міліцыянер, праходзьце цётка! — крычу ёй і яна са смехам пераскаквае праз рэйкі.

Дык навасадаўцы бунтуюцца, пішуць скаргі ў розныя ўстановы. У чэрвені г.г. прыехала была адна камісія, разглядала справу. Мае яшчэ прыехаць іншая камісія — аж з міністэрства. Пакуль што аднак улады гавораць, што няма ніякага іншага выхаду, што пераезд мусіць быць закрыты і перакапаны, а сяляне маюць аб'язджаць навокал. ПКП можа толькі адступіць некалькі вагонаў жужалю на пабудову дарогі. Толькі хто мае яе будаваць? ПКП і гайнаўскі аддзел камунікацыі сцвярджаюць, што гэта справа сялян, хай яны наладзяць грамадскі чын. Прапанова нібы слушная, аднак сяляне даказваюць, што яны нікога не прасілі, каб ім закрывалі гэты пераезд, каб за іх агародамі будавалі станцыю.

Чыгункі, вядома, разбурыць нельга, дык і пераезд мусіць быць закрыты. Аднак не выключна за кошт сялян. Для іх патрэб ПКП павінна зрабіць пераезд ПАД ЧЫГУНКАЙ. А сяляне ў сваю чаргу павінны дапамагчы ў гэтай працы. Так мы мяркуем і здаецца нам, што толькі такое вырашэнне справы будзе трывалай, справядлівай і задаволіць яна сялян і ПКП.

*М. Нурэцкі*

## ЯНКА БРЫЛЬ УЗНАГАРОДЖАНЫ АДЗНАКАЙ «ЗАСЛУЖАНЫ ДЛЯ ПОЛЬСКАЙ КУЛЬТУРЫ»

У пачатку кастрычніка ў Варшаве праходзіў II Міжнародны з'езд перакладчыкаў польскай літаратуры. У з'ездзе ўдзельнічала 100 выдатных папулярызатараў польскай культуры з 20 краін. Прадстаўлялі яны 35 народаў і 36 моваў. З'езд працаваў 8 дзён. Мэтай яго было азнаямленне замежных гасцей з сучаснай польскай літаратурай, а таксама абмеркаванне праблем працы перакладчыка.

6 кастрычніка ў Міністэрстве культуры і мастацтва адбылася ўрачыстасць, у часе якой міністр культуры Люцыян Матыка ўручыў 26 перакладчыкам польскай літаратуры адзнаку «Заслужаны для польскай культуры». Сярод узнагароджаных — выдатны беларускі пісьменнік Янка Брыль. (рл)

## ПРА КОНКУРС ДЛЯ АШЧАДНЫХ

ПКО ў месяцы кастрычніку г.г. зноў аб'явіла свой, ужо традыцыйны, конкурс для ашчадных. Удзел у ім прымае кожны ўласнік ашчаднай кніжкі ПКО, калі мае на кніжцы не менш чым 300 зл., і калі на працягу 4-х месяцаў не парушыць сваіх ашчаднасцей. На ўзнагароды для ўдзельнікаў гэтага конкурсу ПКО прызначыла аж 3 мільёны зл., а ў тым ліку 10 аўтамашын. (вр)

Пачатак на стар. 1




Вось трагедыя сям'і Храноўскіх.

Але жыццё іх не пайшло ў пустую. Пралітая імі кроў з'яўляецца часткаю нашай свабоды...

Вось вялікая карта гісторыі малой гарадоцкай зямлі. Памятаюць яе дарослыя, але павінны ведаць і памятаць маладыя. Наданае імя партызан-братоў М. і А. Храноўскіх добра будзе служыць гэтай справе.

Вельмі важную справу падкрэсліў куратар Э. Крынскі. Менавіта сказаў ён, што згодна з існуючым парадкам не кожная школа можа атрымаць імя. Гэтага школа павінна заслужыць. Яе вынікі навучання і выхавання павінны быць больш чым пасрэдныя. І гарадоцкая школа мае такія дасягненні. Хаця б тое, што дагэтуль школу закончыла 1200 абсальвентаў, што многія з іх зараз займаюць высокія партыйныя і дзяржаўныя пасады. Пацяшае і тое, што кожны год 96% абсальвентаў гарадоцкай школы працягвае навуку ў сярэдніх і прафесіянальных школах.

Гарадоцкая школа атрымала імя тых людзей, якія не толькі змагаліся на гэтай зямлі, але былі вучнямі гэтай жа школы. А гэта здараецца не часта. І таму, як гаварыў кіраўнік школы, школа будзе імкнуцца да яшчэ лепшых вынікаў дыдактычнай і выхаваўчай працы, каб гэтым самым даказаць, як мы ўшаноўваем памяць тых, якія аддалі за нас найдаражэйшае — жыццё.

*А. Карпюк*
фота аўтара



*Выступае кіраўнік школы Я. Бараноўскі.*




*Куточак памяці герояў у школе.*

**У** зіму вёска Хілімоны ў Дуброўскім павеце была электрыфікавана. Стала відна ў хатах і на вуліцы. Святло на вуліцы прыгожае, неонавае. Свяціліся гэтыя неоны дзесьці да пачаткаў вясны, да месяца мая. Потым пагаслі на вельмі доўга. Сталася гэта яшчэ ў гарантыйны час.

Галава вёскі, солтыс, пісаў ліст да фірмы ў Беластоку, каб рабіла яна штосьці з гэтым святлом, бо плаціць за яго трэба, а няма за што плаціць. Вуліца цёмная. Фірма прамаўчала солтысавае пісьмо. І так прамінула лета, прамінула жніво. Людзі казалі: «Хвароба, добра было б пры гэтых неонах зvoзіць снапы ў гумны вечарамі»... Але такой роскашы яны не дачакаліся.

Не дачакаўшыся, напісалі Хілімоны яшчэ адно пісьмо да Беластоцкай фірмы электрыфікацыі сельскай гаспадаркі, якая вінавата ў цэлай гэтай гісторыі. Пісьмо вялікае, з дзесяткамі подпісаў. І на гэтае пісьмо, высланае больш месяца таму назад, вёска таксама не дачакалася ніякага адказу, ніякага растлумачэння прычыны ўсяго гэтага.

# ЛЁГКІЯ АДНОСІНЫ ДА ВЁСКІ

«Ніва» рушыла да фірмы з намерам адшукаць тыя пісьмы хілімонаўскія. Шукала іх доўга, не было і следу іх у многіх канцылярыях гэтай зусім не маленькай фірмы. Нарэшце ўдалося знайсці іх, у кіраўніка Гжанкі. Ён вельмі ветліва растлумачыў нам, што ўся прычына ў светачуллівай апаратуры, якая аўтаматычна кіруе вулічным асвятленнем, але якая безнадзейна папсавалася і якую трэба будзе, відаць, замяніць традыцыйнымі ручнымі выключальнікамі. Слухаючы грам. Гжанку аж дзіва брала чалавека, чаму гэта ён гэтак ветліва не паведаміў хілімонаўскім людзям аб прычыне цемнаты на іхняй вуліцы. Даволі было напісаць пару слоў. Не напісаў. Чатыры месяцы нічога не напісаў.

Грам. Гжанка паведаміў «Ніве» таксама, што такая светачуллівая апаратура абсталявана ў многіх вёсках Сакольшчыны, і што ўсюды яна псуецца, і што неўзабаве будзе спецыяльная камісія ездзіць, правяраць, рабіць фармальныя прапановы выйсця з гэтай «цёмнай» сітуацыі.

Ваюючы з адной справай, Хілімоны ўзяліся ваяваць і з другой справай. Гаспадары адмовіліся ад аплаты рыхтаваных ім рахункаў за меліярацыю, якая была праведзена каля дзесяці гадоў таму назад ва ўрочышчы «За калеяю». Гаспадары тлумачаць, што меліярацыя ўрочышча «За калеяю» зроблена на дзяржаўны кошт, так яны ведаюць. Аднак Павятовы інспектарат водных меліярацый, у доказ абароны сваіх рахункаў, выцягнуў тоўстыя паперы, у якіх ёсць пастанова дзяржаўных улад, з якой вынікае, што меліярацыі, робленыя пасля 1958 года павінны быць аплачаны гаспадарамі ў чацвёртай частцы іх коштаў.

Усё нібы ў парадку. Адкуль жа гэта ўпартасць гаспадароў хілімонаўскіх? Відаць, у той час, значыць, дзесяць гадоў таму назад, ніхто не выясніў ім таго, што ўжо не робіцца дармовых меліярацый... Хтосьці не выясніў і цяпер маецца дачыненне з надта непрыемнай з'явай. «Ніве» выяснілі ў Дуброве, што гаспадары, якія незадаволены гэтымі рахункамі, маюць права пісаць скаргі. Маюць права і, мусіць скарыстаюць гэта права...

Такім чынам нарадзілася яшчэ адна справа, якая будзе цягнуцца гадамі цэлымі. Будзе цягнуцца толькі таму, што дзесяць гадоў таму назад хтосьці з павятовых начальнікаў згультаіў, не зрабіў у вёсцы выясняльнага сходу.

(с.я.)




### АБ ПАСЛУГАХ ПКО

Пасля апошняй банкавай рэформы Усеагульная ашчадная каса (ПКО) не толькі прымае для перахавання ашчаднасці насельніцтва, але таксама прадстаўляе грамадзянам крэдыт. Вось за 8 месяцаў г. г. ПКО на пабудову кватэр адвяло 32 мільёны зл. крэдыту, на грунтоўныя рамонты будынкаў пазычыла 1 700 000 зл., а на пакупку розных, неабходных у дамашняй гаспадарцы прадметаў і артыкулаў — аж 99 мільёнаў зл.

Той, хто мае доўгатэрміновую (для прыкладу: самаходную або «гадавую») ашчадную кніжку, пазычаючы грошы ў ПКО, не абавязаны ставіць жырантаў.

### ПРА СЕЛЬГАСТЭХНІКУ

У Саколцы нам інфармуюць, што ў гадах 1971—1975 сельскагаспадарчыя арганізацыі і ўстановы намераны купіць для патрэб гаспадароў 337 машына-трактарных камплектаў і 23 камбайны.

### ПРА ЗБОЖЖА

Было гэта цяжкое лета для хлебаробаў Бельскага павета. Вясной вымушаны былі яны прыараць звыш 6 тысяч га поля, абсеянага азімінай. Гэта 36—37% усіх асенніх пасеваў. Збожжа, якое не паддалося снежнай цвілі, вырасла, на жаль, слаба, дык ураджай атрымаўся нізкі. А трэба ведаць, што павятовыя ўлады спадзяюцца атрымаць ад сялян Бельшчыны аж 9.600 тон збожжа.

Пры такім становішчы збожжа ў гаспадароў высока цэніцца. На кірмашах просяць яны па 420—450 зл. за цэнтнер, а ў Бранску ў час сяўбы цана на пасяўное жыта падскочыла была нават да 580 зл.

### ПРА ВЁСКУ ТАКАРЫ

Такары знаходзяцца ва ўсходнім кутку Сямяціцкага павета. У Такарах канчаецца Польшча і пачынаецца Савецкі Саюз. Гэты сказ трэба разумець літаральна, бо ў ім няма нічога з паэтыцкай фантазіі. Так склалася, што аграмадную вёску Такары ў 1948 годзе якраз напалавіну перарэзала дзяржаўная мяжа. Частка з царквой апынулася ў Савецкім Саюзе, а частка з касцёлам засталася ў Польшчы. Жыхары Такароў мелі магчымасць выбраць сабе месца пражывання з аднаго або з другога боку дзяржаўнай мяжы. Яны аднак найчасцей засталіся на сваіх старых сялібах.

Вёска паспяхова развіваецца. Ад мая 1970 года мае яна пастаяннае аўтобуснае спалучэнне з Сямяцічамі.

### ПРА ВОЙСКА І ДЗЯЦЕЙ

12 кастрычніка, у Дзень Людовага Польскага войска, дзеці з горада Бельска традыцыйна ўжо наведваюць павятовы Вайсковы штаб. Яны прыносяць працуючым там салдатам і афіцэрам букеты кветак і свае сардэчныя, шчырыя, дзіцячыя пажаданні. Афіцэры бельскага штаба частуюць малых гасцей цукеркамі, паказваюць ім праўдзівую зброю і салдацкую — таксама сапраўдную — вопратку. Дзеці вельмі хвалююцца і доўга памятаюць такую сустрэчу.

*М. Нурэцкі*

# ЛЯ ВЫТОКАЎ БЕЛАРУСКАГА КНІГАДРУКАВАННЯ

У апошнія гады гісторыкі славянарускага кнігадрукавання назіраюць вельмі цікавую з'яву: валіцца, здавалася б непарушная іерархія першых славянскіх друкароў. Не гаворачы ўжо аб Іване Фёдараве, які даўно ўжо ўступіў пальму першынства кракаўскаму першадрукару Фіёле, а той, у сваю чаргу, львоўскаму друкару Дропану, не гаворачы ўжо аб фармальнай рэвалюцыі ў гісторыі ўкраінскага кнігадрукавання, аб новых даных па гісторыі маскоўскай кнігадрукарні, — чарга цяпер на перагляд шматлікіх момантаў з гісторыі беларускай выдавецкай справы. Тут неабходна ўдакладніць: і яшчэ якіх момантаў!

Бацькам беларускага кнігадрукавання прынята лічыць Георгія Францішка Скарыну. Не так даўно свет адзначаў 450-ую гадавіну выхаду ў свет першай друкаванай кнігі на беларускай мове, выдадзенай ім у 1517 годзе.

У сувязі з гэтай гадавінай паявілася шмат вучоных прац, прысвечаных як самому Скарыне, так і яго выданням. Надрукавана шмат артыкулаў, якія расказваюць аб ролі і развіцці беларускай асветы.

У сучасны момант паяўляюцца аднак думкі, што першым беларускім друкаром быў аднак не Скарына, а нехта іншы, часткова — яго папярэднік, часткова — яго сучаснік. Першае ўказанне на такую магчымасць было выказана праф. А. Даманеўскім яшчэ ў 1917 годзе ў сувязі з 400-ай гадавінай выхаду ў свет першай кніжкі Скарыны. Праф. А. Даманеўскі тады пісаў: «Зусім магчыма, што роля Скарыны ва ўзнікненні беларускага кнігадрукавання яшчэ не высветлена канчаткова. Здаецца, больш справядліва было б лічыць Скарыну першым беларускім выдаўцом, чым друкаром. Мы ж гаворым аб друкарні Івана Фёдарава, а не аб друкарні Канстанціна Канстанцінавіча князя Астрожскага».

Высветлім чытачу, у чым справа: праф. А. Даманеўскі і яго пазнейшыя аднадумцы лічаць, што ў асобе Скарыны мы маем дачыненне не столькі з друкаром, колькі з выдаўцом. А гэта, зразумела, не адно і тое ж. Узнікае аднак пытанне, калі Скарына з'яўляўся выдаўцом, дык хто ж быў друкаром, каму належыць заслуга друкавання першых беларускіх кніг?

Ужо І. Агіэнка меркаваў, што роля Скарыны ў гісторыі кнігадрукавання патрабуе новай дакументацыі. Сам Скарына нідзе не называе сябе друкаром, піша толькі, што ён з'яўляецца «справшчиком», г.зн. выдаўцом сваіх кніг, якія «повелел есьми цисну ти русскими словами а словенским языком». Менавіта дзякуючы гэтым словам, некаторыя вучоныя прыходзяць да вываду, аб якім была мова вышэй. Чэшскі вучоны Шарфажык піша: «Няма ніякіх рэальных падстаў, каб сцвярджаць, што Скарына быў навучаны друкарскаму майстэрству. Неабходна прарабіць велізарную, захапляючую па сваёй цікавасці работу, каб устанавіць, хто менавіта друкаваў кнігі Скарыны, хто арганізаваў шрыфты і г.д.»

Адказ на гэтыя пытанні пакуль што немагчыма даць абсалютна поўна. Часткова аднак таямніца адкрыта: звернута ўвага на ўпамінанне ў пражскіх аналах імя (яшчэ да канца не расшыфраванага) Івана Яна Палоцкага — «друкара».

Ужо само прозвішча «Полацкі» звяртае ўвагу. Магчыма, што «друкарскіх спраў майстар» паходзіў, як указвае яго прозвішча, з таго самага горада, што і Францішак Скарына. Менавіта Скарына нарадзіўся ў Полацку ў пачатку 1491 года, як раз у тым годзе, калі на кракаўскім рынку бушавалі кастры кракаўскай інквізіцыі, у якіх гарэлі першыя друкаваныя кнігі, выдадзеныя ў друкарні Фіёлы. Як вядома, пазней такі ж лёс спаткаў і некаторыя кнігі Скарыны.

Іван Полацкі — несумненна, беларус. Магчыма, менавіта яму і даручыў Скарына справу выдання сваіх кніг у Празе?

Пытанне, якое застаецца пакуль што яшчэ адкрытым, можа мець вялікае значэнне для перагляду некаторых мала ясных старонак у біяграфіі Скарыны.

Вучоныя ўказваюць на той факт, што ў апошнія гады знойдзена не больш і не менш, як 126 назваў першых друкаваных кніг ананімнага друку. Яны ніколі не былі апісаны і вывучаны. Сярод іх, несумненна, знаходзяцца і беларускія першыя друкаваныя кнігі, невядома кім, калі і дзе выдадзеныя. Звяртаюць цяпер увагу на тое, што сярод гэтых, раней невядомых навуцы кніг, знаходзіцца экземпляр, які затаіўся пад прозвішчам Івана Яна Полацкага.

У Чэхіі, дзе выданне кніг спосабам наборнага друку датуецца 1468 годам, друкарскае майстэрства ў гады прабывання Скарыны ў Празе стаяла ўжо на вялікім тэхнічным узроўні. Магчыма, Іван Полацкі быў вучнем кракаўскага друкара Фіёлы, які пасля разгрому кракаўскай друкарні збег у Прагу, дзе праследванні схізматыкаў не выступалі яшчэ з такой сілай.

З фантастычнай гіпатэзай наконт падвойнага імя Скарыны выступае С. Брашын, ён выказвае думку, што Георгій Скарына і Францішак Скарына — гэта не адна асоба, а дзве зусім розныя. Такая думка не вытрымлівае навуковай крытыкі, а адзначаем яе тут толькі як цікаўнасць.

Кнігадрукарская дзейнасць Цяпінскага таксама была ў нейкім сэнсе перагледжана. Знойдзены новы экземпляр яго «Евангелля», на падставе якога зроблены вывад, што друкарская дзейнасць Цяпінскага пачалася прынамсі на 5 гадоў раней.

 



## ВЫСТАЎКА АМАТАРАЎ

З нагоды ўрачыстага адкрыцця культурнага года 1970/71, якое адбылося ў Саколцы, адкрыта тут выстаўка прац мастакоў-аматараў з усяго ваяводства. Арганізатарам выстаўкі з'яўляецца Ваяводскі дом культуры. У сёлетнім культурным годзе плануецца зрабіць некалькі такіх выставак у паасобных гарадах ваяводства. (ак)

На здымку: *фрагмент выстаўкі ў Саколцы.*

*Фота ЦАФ — Сянько*

Карэспандэнцыя з Мінска

# БЕЛАРУСКІ ТЭАТР

Беларускі тэатр, таксама як тэатры шматлікіх краін, бярэ свой пачатак у вусна-паэтычнай народнай творчасці. Найбольш распаўсюджанымі першапачатковымі формамі тэатра былі народная драма і народны лялечны тэатр — Батлейка, якія адыгралі значную ролю ў развіцці сцэнічнага мастацтва.

Першыя спробы стварэння нацыянальнага прафесіянальнага тэатра адносяцца да сярэдзіны XIX стагоддзя. Заслуга ў гэтым драматурга Вінцука Дуніна-Марцінкевіча — аўтара лібрэта камічнай оперы «Сялянка», сатырычных камедый «Пінская шляхта» і «Залёты». Драматург з'явіўся стваральнікам і кіраўніком поўпрафесіянальнага тэатра ў Мінску, які працаваў на працягу шэрагу гадоў. Аднак гэты тэатр у выніку праследвання з боку царскіх улад быў вымушаны спыніць сваё існаванне.

У 1907 годзе на Беларусі ўзнік першы нацыянальны прафесіянальны тэатр, які ўзначаліў таленавіты выхадзец з народу, драматычны акцёр, спявак і танцор Ігнат Буйніцкі. Тэатр быў асаблівы — у яго рэпертуар увахадзілі і драматычныя творы, і вакальныя, і харэаграфічныя. Ва ўсім гэтым знаходзілі праяўленні народныя традыцыі. Аднак у 1913 годзе тэатр спыніў сваё існаванне ў сувязі з матэрыяльнымі цяжкасцямі і пастаянным цэнзурным прыгнётам.

У красавіку 1917 года ў Мінску пачаў дзейнічаць другі прафесіянальны тэатр — «Першае таварыства беларускай драмы і камедыі». Аднак толькі пасля сацыялістычнай рэвалюцыі 1917 года былі створаны сапраўдныя ўмовы для развіцця нацыянальнай культуры і мастацтва. Калі перад рэвалюцыяй на Беларусі быў усяго толькі адзін прафесіянальны тэатр, то напярэдадні другой сусветнай вайны іх працавала ўжо 23!

Да ліку найлепшых нацыянальных драматычных тэатраў адносяцца Беларускі акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы (узнік у 1920 г.) і Беларускі тэатр імя Якуба Коласа (створаны ў 1926 г.).

А вось прозвішчы рэжысёраў і акцёраў, якія ўнеслі найбольш прыкметны ўклад у развіццё савецкай нацыянальнай сцэны.

Уладзіслаў Галубок — драматург, пяру якога належыць каля сарака п'ес, рэжысёр, акцёр, мастак, музыкант, стваральнік і кіраўнік Беларускага вандроўнага тэатра. Яўсцігней Міровіч — стваральнік тэатра імя Я. Купалы, акцёр, рэжысёр, педагог, аўтар шэрагу п'ес. Выдатны акцёр нацыянальнай сцэны Уладзімір Крыловіч, асабліва паспяхова выступаўшы ў ролях народных герояў. Акцёры з шырокім творчым дыяпазонам Павел Малчанаў і Барыс Платонаў. Дасканалы востра-камедыйны акцёр Аляксандр Ільінскі, тонкія майстры стварэння народных характараў Глеб Глебаў, Уладзімір Уладамірскі і Лідзія Ржэцкая, рэжысёр Канстанцін Саннікаў, які шмат зрабіў для развіцця нацыянальнай драматургіі, стваральніца глыбока драматычных жаночых характараў у класічным і савецкім рэпертуары Ірына Жданові́ч... На змену гэтым прызнаным майстрам у апошнія гады прыйшлі і прыходзяць маладыя акцёры, большасць з якіх выйшла са сцен Беларускага тэатральнага інстытута. Сярод іх — Фёдар Шмакаў, Мікалай Яроменка, Віктар Тарасаў, Лілія Давідовіч, Раман Філіпаў...

У чым асаблівасць беларускага тэатра?

Адказ трэба было б шукаць у двух напрамках — у народных традыцыях, якія ў многім вызначаюць характар драматургіі і манеру сцэнічнай ігры акцёраў, і ў творчым успрыйманні найлепшых дасягненняў рускага тэатра.

Цяпер у рэспубліцы ёсць адзінаццаць тэатраў: Беларускі акадэмічны тэатр оперы і балета, Беларускі акадэмічны тэатр імя Я. Купалы, Беларускі тэатр юнага гледача, Рускі тэатр БССР імя М. Горкага, Беларускі тэатр лялек (усе — у Мінску), Беларускі тэатр імя Я. Коласа (у Віцебску), драматычныя тэатры ў Гомелі, Магілёве, Брэсце, Гродне, Бабруйску. Апрача гэтага, у розных гарадах працуе звыш трыццаці народных тэатраў.

**УЛАДЗІМІР НЯФЁД**

Вялікі спор вядзецца ў апошні час вакол «Чацвёраевангелля», т.зв. «сярэднецьрыфтнага», якое, як мяркуюць, было ананімна выпушчана ў Маскве. Існуе думка, што гэта кніга, якая мае яўныя беларускі слоўнікавы адбітак, магла быць выпушчана беларусам Мсціслаўцам, прабываючым у Маскве.

Пётр Мсціславец — настаўнік геаграфіі, родам з беларускага горада Мсціслаўля, практыкаваўся ў друкарскай справе ў Вільні, дзе друкарні паўсталі яшчэ ў 1525 годзе. Мяркуюць, што менавіта Пётр Мсціславец мог навучыць друкарскай справе масквічаніна Івана Федарава, які «тщанием своим печатное дело перед ним занедбалое, обновил».

М. В. Доўнар — Запольскі яшчэ ў 1899 г. прысвяціў Васілю Цяпінскаму вялікую працу, разглядваючы яго дзейнасць не толькі як друкара і выдаўца, але і як перакладчыка Евангелля на беларускую мову. Надрукаваная ў «Известиях отделения словестности Императорской Академии Наук» праца гэтая выклікала вялікую сенсацыю ў навуковым свеце. У сучасны момант, развіваючы погляд М. В. Доўнар-Запольскага, лічаць, што Васіль Цяпінскі быў адным з найбольш дасканалых прадстаўнікоў беларускай асветы. Асабліва значэнне мае прадмова Васіля Цяпінскага да вышэй спамянутага Евангелля. А кніга, аб якой ідзе гутарка, — адна з найбольш значных помнікаў беларускага друкаванага слова. Выйшла яна з друку дакладна чатырыста гадоў таму назад.

ПАНЦЕЛЯЙМОН ЮР'ЕЎ



*Павел Малчанаў (другі справа) — адзін з найлепшых савецкіх стваральнікаў вобраза Леніна на тэатральнай сцэне і вядомы рэжысёр. Момант рэпетыцыі.*

*Адрэж па лініі, назначанай пункцірам, зрабі дзіркі ў месцы, вызначаным кружкамі і нанізаў старонкі на дроцік або шнурочак.*

**БІБЛІЯТЭЧКА "НІВЫ" ● ЯНКА МАУР ● ПАЛЕСКІЯ РАБІНЗОНЫ**

9.

— Трэба, — пацвердзіў Мірон.

І зноў абодва засталіся ляжаць.

Зноў прайшло некалькі часу. Тады Мірон рашуча сказаў.

— Так нічога не выйдзе. Давай па камандзе: р-раз!

— Два! — падхапіў Віктар.

А «тры» не сказаў ні той, ні другі — так хацелася яшчэ хвіліначку паляжаць. Многа яшчэ прайшло такіх хвіліначак, пакуль, нарэшце, бадай абодва разам крыкнулі «тры», ускапіліся на ногі і пачалі распранацца.

Адзежы ўсёй разам было: дзве пары бялізны, двое штаноў, дзве верхнія кашулі, пара ботаў (Міронавы), пара чаравік (Віктаравы), скураная куртка (Віктарава), суконная світка (Міронава), пара рваных шкарпэтак (Віктаравы), пара ануч (Міронавы) і дзве шапкі.

Перагрэслі кішэні і падлічылі ўсю сваю маёмасць наогул.

Віктар перш за ўсё ўхапіўся за свой табак. Зверху махорка зрабілася на кашу, а ад паперы нічога не засталося.

— Эх, шкада дабра! — уздыхнуў ён і асцярожна пачаў выцягваць сваё багацце і раскладаць яго на зямлі.

— Дзе яго цяпер возьмеш?

— І добра! — сказаў Мірон. — Прынамсі, курыць адвыкнеш.

— Ну не, брат! Лепш есці адвыкну.

— Цяпер для мяне гэта было б вельмі дарэчы, — спакойна прамовіў Мірон і выцягнуў з кішэні мокрую скарынку хлеба.

— Хлеб?! — падскочыў Віктар.

— Ціха, ціха! Ты ж толькі што казаў, што можаш не есці, абы махорка была. Выбірай — або хлеб, або махорка.

— Тады ліха з табой, не трэба, — пакрыўдзіўся Віктар.

Мірон таксама старанна палажыў сушыцца свой хлеб і нават сабраў усе крошкі.

Калі выграслі ўсе свае кішэні, то ў абодвух насы апусціліся яшчэ ніжэй. Агульная маёмасць была: махорка, скарынка хлеба, аловак, адна насавая хустачка, восем рублёў семдзесят чатыры капейкі грошай і чатыры мокрыя запалкі ў расплясканым мокрым карабку.

— Нават запалак не маеш! — упікнуў Мірон. — Адзіны выпадак трапіўся ў гісторыі чалавецтва, калі курэц мог быць карысным для грамадства, ды і то...

— Запалак я меў досыць, але яны з усімі іншымі рэчамі былі ў торбе, якую ты пусціў па вадзе, — агрызнуўся Віктар. — А вось у цябе нават ножыка няма.

— Дык і ён жа застаўся ў маёй торбе, — панура адказаў Мірон.

Але спрачацца не было часу. Яны знайшлі клін чыстай вады, вышаласкалі ўсё сваё адзенне і ў чатыры рукі выкруцілі так, што ў ім, здаецца, не толькі вады, але і жывой мясціны не павінна было застаца. Развесілі на сонцы, а самі селі ў пяску пад карэннямі вялі-

11.

Калі яны адзеліся, Віктар неяк нерашуча сказаў:

— Можа, пойдзем далей?

— Куды ты цяпер пойдзеш? — адказаў Мірон. — Нават па знаёмай дарозе рызыкоўна пускацца ў такі час. А гэтак мы напэўна прабутаемся ўсю ноч дарэмна. Наўрад ці блізка ў гэтых месцах ёсць паселішча. Якім бы ні было чынам, а прыйдзецца тут пераначаваць.

За ўвесь сённяшні дзень гэта было адзінае пытанне, па якім не адбылося спрэчак паміж таварышамі. Пачалі рыхтавацца да начлегу. Зрабілі сабе логава ў сухім пяску між карэннямі, падгарнулі сухога лісця і шылыніку. Нарэшце надышоў самы вялікі, урачысты і адказны момант — здабыванне агню. Сэрцы ў хлопцаў застукалі мацней, рукі дрыжалі. Мусіць, з такім самым пачуццём тысячагоддзі назад у якім-небудзь першабытным храме людзі прыступалі да здабывання свяшчэннага агню.

— Ці высахлі яны?

Памацалі з усіх бакоў — здаецца, высахлі.

Чыркнуў Віктар раз, другі — нічога... Толькі белы след застаўся на карабку.

— Мусіць, не досыць высахлі, — сумна сказаў Мірон.

— Болей псаваць не варта.

— Мая кашуля ўжо высахла, я палажу іх пад паху, — сказаў Віктар.

А пакуль што прытуліліся ў сваім логаве без агню.

## II

**Першая ноч. — Начная дужанка. Заяц, які дзюбаецца. — Апошнія запалкі. — Дадому.**

Сонца ўжо зайшло, але яшчэ цэлую гадзіну трымаўся шэры змрок. Над возерам са свістам пранаталі качкі, спяшаліся на начлег. Уверсе пачуўся жураўліны крык. Вось ён мацнее, робіцца больш выразным: відаць жураўлі спускаюцца на адпачынак.

— Вось добра было б, каб які-небудзь журавель ці гусь сеў нам на галаву! — прамовіў Віктар.

— Што б ты з ім рабіў без агню? — уздыхнуў Мірон.

— З'еў бы сырога.

Мірон павярнуўся на спіну, зірнуў на зоркі. Яны так прыгожа зіхацелі! Ласкава шапталіся верхавіны дрэў. Мусіць, дома цешацца цяпер добрым веснавым надвор'ем а яны...

— Вось да чаго даводзіць свавольства! — нібы сам да сябе прамовіў Мірон. — Каб мы папрасілі човен у гаспадара, дык цяпер людзі ведалі б, дзе мы, і прыехалі б па нас. А так, нават калі і знойдуць, дзе човен, то не будуць ведаць, якім чынам ён там апынуўся. Паслухаўся цябе...

— Ну-ну, няма чаго наракаць, — нездаволена забурчаў Віктар. — Ніхто цябе не прымушаў. Калі ты такая цаца, дык не трэ' было згаджацца. А ісці за паўкіламетра шукаць гаспадара і ў цябе самога не было ахвоты. З'есці збіраліся мы гэтую душагубку, ці што? Каб не такі выпадак, вярнулі б на месца — і ўсё.

 

10.

кай хвоі. Скардзіцца на холад яшчэ нельга было, але сонца няўхільна апускалася, а адзежа сохла марудна. Беражна расклалі на сонцы і ўсю іншую маёмасць, асабліва запалкі.

— А табе не даводзілася ўжываць высушаныя запалкі? — пытаўся Мірон. — Ці гараць яны?

— Не даводзілася.

— Вось бачыш: такая простая рэч, а ты не ведаеш.

— А ты?

— Дык я ж не куру.

— Гэта ж не толькі для курэння патрэбна. Эх ты! — паківаў галавой Віктар. — Разважаць толькі любіш.

Віктар увесь час скоса пазіраў на хлеб. Не цярпелася і Мірону. Узяў ён вільготны кавалак, разламаў напалам, працягнуў Віктару. З'елі гэты кавалак і яшчэ больш захацелі есці.

— Каб ведаў, лепш бы зусім не еў, — бурчаў Віктар.

— Прывыкай, браток, не тое яшчэ будзе, — суцешыў Мірон.

— Хоць бы закурыць, — прамовіў Віктар, гледзячы на сваю махорку.

— Добра і так, — сказаў Мірон.

Дагэтуль яны неяк не мелі часу падумаць пра свой далейшы лёс: кожную хвіліну перад імі стаяла бліжэйшая, непасрэдная справа. Цяпер жа, калі сядзелі галышом пад дрэвам і чакалі, пакуль высахне адзежа, яны маглі больш падумаць пра заўтрашні дзень.

— А што, калі нам некалькі дзён давядзецца валэндацца тут, пакуль выбярэмся? — разважаў Віктар.

— О, гэта было б вялікім шчасцем! — прамовіў Мірон.

— Дзякую за гэткае шчасце! — чмыхнуў Віктар. — А есці што будзеш? Можа, яшчэ з голаду зойдзешся.

— Вось таму я і лічу за шчасце пабадзяцца некалькі дзён, а не тыдняў ці месяцаў, — панура сказаў Мірон.

— Можа, скажаш яшчэ — стагоддзяў, — усміхнуўся Віктар.

— І гэта можа быць, — сур'ёзна адказаў Мірон. — Нашы косці могуць знайсці і праз некалькі стагоддзяў!

—Эх ты, нуда хадзячая! — скрывіўся Віктар. — Табе на печы б сядзець, а не пускацца ў падарожжа. Чуў я шмат разоў, як людзі блудзілі па лясах, але не чуў аніводнага разу, каб у нашых лясах гэтак хто-небудзь загінуў. Гэта табе не бразільскія лясы, не афрыканскія пушчы.

— Чаго ты пнешся? Магу цябе запэўніць, што я таксама не вельмі прагну тут загінуць, — апраўдваўся Мірон.

— Ну, дык няма чаго рыхтавацца да смерці! — адрэзаў Віктар.

Хоць сонца яшчэ свяціла, але ўжо не грэла. Доўгія цені паступова пакрывалі светлыя мясціны. Хлопцы адчулі холад.

— Нічога не зробіш, прыйдзецца надзяваць сырую адзёжу, — уздыхнуў Мірон.

— Дармо! Дасохне на целе, — бадзёрыўся Віктар.

12.

Мірон змоўк. Усё роўна справы не паправіш. А спадзявацца на дапамогу няма чаго. Ніхто іх тут не ведае. Калі і бачыў хто, што паплылі недзе нейкія два хлопцы, то нікому не прыйдзе ў галаву пацікавіцца, дзе яны дзеліся. Прыйдзецца самім шукаць дарогі.

Паветра рабілася ўсё больш сырым і халодным. Добра яшчэ, што ветру не было. Крыху дапамагала таксама тое, што, шчыльна прытуліўшыся, яны маглі грэць адзін аднаго.

Час цягнуўся марудна. Голад і холад не давалі заснуць. Хлопцы вымушаны былі варочацца з боку на бок. Задрамалі, але хутка так змерзлі, што пачалі ляскаць зубамі. Было, мусіць, пасля поўначы. Віктар не вытрымаў і ўскочыў.

— Гэй, уставай! — штурхануў ён Мірона.

— А? Чаго?..

— Выклікаю цябе на спаборніцтва!

— А? Што?..

— Уставай дужацца!

— Што? Чаго? — мармытаў Мірон. — Не лезь!

Але Віктар ухапіў Мірона за ногі і павалок па зямлі. Мірон не толькі не ачухаўся, але раззлаваўся.

— Ты чаго лезеш? — закрычаў ён. — Чаго спаць не даеш? Я цябе зараз...

— Ціха, ціха! — сказаў Віктар. — Я цябе не біцца выклікаю, а дужацца. Дужацца, каб сагрэцца. Разумееш?

— А!..

І сярод начной цішы пачалася дужанка... Віктару хутка ўдалося павaліць Мірона. Той пакрыўдзіўся:

— Пачакай! Пачакай! Ты ж не даў мне добра ўзяцца, адразу накінуўся. Давай яшчэ раз, вось так. Пагледзімо, як цяпер...

І дужанка зноў пачалася, ды яшчэ як заўзята!..

Змарыліся, паляглі. Паспалі крыху і зноў пачалі варушыцца. Раптам недзе побач пачуўся дзікі, прарэзлівы крык. Крык жудасны і разам з тым нейкі жаласны, нібы хто душыць малое дзіцяня...

Жах ахапіў хлопцаў. Мімаволі яны шчыльней зашыліся між каранёў.

Крык не спыняўся, і нават непадалёк, у кустах, чулася нейкая тузаніна.

Тут ускочыў Віктар і кінуўся ў кусты.

— Мірон! Сюды хутчэй! — зараз жа пачуўся яго крык.

Спачатку Мірон зазлаваў на Віктара, чаму гэта ён адзін кінуўся ў бяду, але ў той жа момант сам апынуўся каля Віктара. Той нешта трымаў, і гэтае нешта білася і вырывалася.

Трымай! Хутчэй! — зноў крыкнуў Віктар.

Мірон учапіўся рукою за поўсць нейкага звера.

— Што гэта за звер такі? — здзівіўся ён.

— Трымай, трымай мацней! Заяц! — засопшыся, сказаў Віктар.

Мірон учапіўся абедзвюма рукамі за зайца, але зараз жа адну руку адхапіў, бо нехта моцна ў яе дзюбануў.

— Ай, ай, заяц дзюбаецца! — крыкнуў ён з жахам.

## ЗЯМЛЯ І ЛЮДЗІ

ДА ЮБІЛЕЮ АРГАНІЗАЦЫІ АБ'ЯДНАНЫХ НАЦЫЙ

# СУМЛЕННЕ СВЕТУ

25 год таму назад удзельнікі першай пасляваеннай міжнароднай канферэнцыі, якая адбылася ў чэрвені 1944 года ў Сан-Францыска, падпісалі Карту Аб'яднаных Нацый. Ва ўступным слове да гэтай Карты, між іншым, сказана:

*«МЫ, АБ'ЯДНАНЫЯ НАРОДЫ, гатовы*

*ўсцерагчы будучыя пакаленні ад няшчасця вайны, якая ўжо двойчы на працягу нашага жыцця прынесла чалавецтву несамавітыя пакуты,*

*вярнуць веру ў асноўныя правы чалавека, годнасць і вартасць адзінкі, раўнапраўнасць мужчын і жанчын, роўнасць вялікіх і малых дзяржаў (...)*

*пастанаўляем аб'яднаць нашы намаганні для ажыццяўлення гэтых мэт».*

Карта абавязвае ад 24 кастрычніка 1945 года і гэтая дата дае пачатак існаванню Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Таму сёння адзначаем яе 25-цігоддзе.

Калі ААН распачала сваё існаванне, яе членамі была 51 дзяржава. Цяпер у саставе гэтай міжнароднай арганізацыі знаходзіцца аж 126 дзяржаў. Адміністрацыйнай сялібай ААН з'яўляецца Нью-Йорк. Яе галоўныя органы: Генеральная Асамблея, у якой прымаюць удзел усе члены, Савет Бяспекі, Гаспадарчы і Грамадскі Савет, Міжнародны Трыбунал Справядлівасці і Сакратарыят з Генеральным Сакратаром, якім зараз з'яўляецца У Тан. Асноўная адказнасць за захаванне міру і бяспекі ў свеце ўскладзена на Савет Бяспекі. Пачаўшы ад 1965 года, складаецца ён з 15-ці дзяржаў, сярод якіх толькі 5 — Вялікабрытанія, ЗША, Кітай (Тайван), СССР і Францыя — з'яўляюцца пастаяннымі членамі, а іншыя перыядычна змяняюцца. Гэтыя асноўныя органы ААН у сваім распараджэнні маюць шмат іншых спецыялістычных міжнародных арганізацый, камісій і камітэтаў.

Прадстаўнікі ПНР падпісалі Карту ААН 16 кастрычніка 1945 года, і таму Польшча з'яўляецца дзяржавай-заснавальнікам ААН. Зараз наша краіна мае сваіх прадстаўнікоў у 21 органе ААН і ў шматлікіх спецыялістычных яе арганізацыях, ужо трэці раз выбіраюць яе ў Савет Бяспекі. Сярод 126 дзяржаў — членаў ААН Польшча займае 11-тае месца па вышыні членскіх узносаў. Гэта абазначае, што ААН адводзіць нам 11-тае месца ў свеце па гаспадарчаму развіццю. (вр)




*Польская дэлегацыя ў час 24 сесіі Генеральнай Асамблеі ААН. Першы злева — міністр замежных спраў Стэфан Ендрыхоўскі, побач яго — намеснік міністра замежных спраў Юзэф Віневіч.*




### РОЗНЫЯ ПАТРАВЫ З СЕЛЯДЦОЎ

У мінулым нумары, дарагія нашы чытачкі, мы абяцалі вам напісаць, якія патравы на штодзень, на абед, можна рабіць з селядцоў. Сёння сваё абяцанне выконваем.

### КАТЛЕТЫ З СЕЛЯДЦОЎ

4 селядцы дакладна вымачыць (зняць скурку, адрэзаць галовы і вычысціць у сярэдзіне, пасля мачыць 24 гадзіны ў халоднай вадзе, змяняючы ваду, ды яшчэ мачыць апошнія паўгадзіны ў салодкім малацэ). Разрэзаць селядцы ўздоўж напалову, вымаючы з іх хрыбет і косці, а пасля дробна пасячы. Дадаць да іх 2 намочаныя булкі, 2 сырыя яечкі і сцертую на тарцы цыбуліну, а таксама лыжку растопленага масла ці маргарыну. Атрыманую масу дакладна размяшаць. Рабіць круглыя невялікія катлеты, мачаць іх у молатых сухарах (цёртай булцы) і смажыць на разагрэтым тлушчы. Да гэтых катлетаў добра было б падаць вараную бульбу і нейкі зялёны салат (найлепш з цукровай салаты).

### ГРЭНКІ З СЕЛЯДЦАМІ

Гэтае блюда раім выкарыстаць, калі прыйдуць да вас госці, а мяса ці вяндліны ў хаце няма, ёсць затое селядцы і грыбы шампіньёны (пячаркі).

2 селядцы, вымачаныя, без скуркі і касцей, дробна парэзаць, цыбуліну сцерці на бульбянай тарцы, з 50 г (5 дэкаў) пячарак зняць скурку, ачысціць іх і нарэзаць.

На патэльні разагрэць лыжку масла, палажыць пячаркі, а як толькі яны стануць румяныя, палажыць таксама селядцы і цыбулю. Смажыць, памешваючы 1—2 мінуты.

Белы батон парэзаць на тонкія лустачкі, намазаць маслам і ўставіць у гарачую духоўку, каб прыпякліся. Выняўшы грэнкі з духоўкі, трэба адразу мазаць атрыманай селядцовай масай і падаваць.

### СЕЛЯДЦЫ НАКШТАЛТ МІНОГАЎ

Для гэтага блюда патрэбна нам 6 тлустых селядцоў. Селядцы дакладна ачысціць, адрэзаць галовы, зняць скурку, вымачыць і ачысціць ад касцей. Разрэзаць кожны селядзец уздоўж на дзве часткі і кожную частку перарэзаць яшчэ раз уздоўж. Селядцовыя палоскі трэба намачыць у муцэ, змешанай з молатымі сухарамі і перцам і смажыць на моцна разагрэтым алеі.

Закіпяціць 3/4 шклянкі воцату з карэннямі. Астудзіць воцат. Селядцы злажыць у шкляны слоік, альбо ў міску, заліць астуджаным воцатам, каб былі яны толькі прыкрытыя. Ужо праз некалькі гадзін селядцы накшталт міногаў будуць гатовы.

*Гаспадыня*

ЧЫТАЙЦЕ і РАСПАЎСЮДЖВАЙЦЕ «НІВУ»!




### АСЕЧКА

У размяшчэнне штаба Скарцэні ў Фрыдэнталі паблізу Берліна пачалі прыбываць добраахвотнікі. На вялікім пляцы, акружаным густымі лясамі, «чалавек са шрамам» кіраваў трэніроўкай дыверсантаў. Побач з баявой падрыхтоўкай ім «ставілі» англійскае і амерыканскае вымаўленне. Іх прывучалі жаваць гумку і трымаць рукі ў кішэнях нават пры сустрэчы са старшымі па званню. Самае цяжкае было навучыцца скручваць цыгарэту адной рукой. З трох тысяч добраахвотнікаў, як расказваў пазней Скарцэні, гэтым майстэрствам авалодалі толькі трое.

Канчатковую шліфоўку дыверсанты атрымалі ў лагеры пад Нюрнбергам, дзе Скарцэні падзяліў іх на групы, якія атрымалі розныя заданні. Тыя, хто лепш за іншых размаўляў па-англійску, былі прызначаны камандзірамі. Ударная каманда брыгады была падзелена на пяць груп, у задачу якіх уваходзіла нападзенне на штаб-кватэру ў Версалі. У заключны момант аперацыі Скарцэні ў нямецкім мундзіры, пад аховай немцаў у форме саюзных войск павінен быў быць дастаўлен у якасці «палоннага» ў штаб-кватэру «для допыту». Мінуўшы вароты Версаля, група павінна была прабрацца ў рэзідэнцыю галоўнакамандуючага і забіць яго. Дакладнае месцазнаходжанне рэзідэнцыі было адзначана на спецыяльных картах, якія былі ў кожнага дыверсанта. Не выключана, што Скарцэні збіраўся асабіста «ліквідаваць» кіраўніка саюзных войск.

На другім тыдні снежня 1944 года дыверсанты Скарцэні былі перакінуты на Ардэнскі фронт. Дробнымі групамі яны прасачыліся цераз лінію фронту і змяшаліся з падраздзяленнямі амерыканскай І-й арміі. Яны знішчалі лініі сувязі, знімалі папераджальныя таблічкі ў мініраваных раёнах, падмянялі ваенных рэгуліроўшчыкаў і накіроўвалі войскі ў няправільным кірунку. Загадзя абумоўленай сігналізацыяй яны наводзілі сваю артылерыю на цэлі, у выніку чаго саюзнікі неслі сур'ёзныя страты.

### «КАФЭ ДЭ ЛЯ ПЭ»

Служба контрразведкі саюзнікаў працавала з вялікай напружанасцю. Неўзабаве ёй удалося расшыфраваць план «аперацыі Грыф». Амаль кожнаму салдату стала вядома, што Скарцэні рыхтуе замах. Палявая паліцыя атрымала загад затрымліваць усіх падазроных незалежна ад звання. Была распрацавана серыя кантрольных пытанняў, на якія змог бы адказаць толькі «сапраўдны амерыканец»: «Што такое рачныя піраты?» (комікс), «Хто такі чорны бамбардзір?» (баксёр Джо Луіс), «Хто такі Голас?» (спявак Фрэнк Сінатра), «Хто жанаты з Бэці Грэйблі?» (Гары Джэймс). Калі дапытваемы правільна адказаў на гэтыя пытанні, яму прапаноўвалі сказаць слова «wreath» (вянок). (Спалучэнне w, r, і th не можа вымавіць правільна нават вельмі здольны да мовы немец).

 

# ТРЫБУНА чытачоў

## ХАЧУ ПЕРАПІСВАЦЦА

Дарагая рэдакцыя «Нівы»!

Перш за ўсё я хачу перадаць рэдакцыі сардэчныя віншаванні і пажадаць самых добрых поспехаў. Я вельмі ўдзячны вам за тое, што ў наступных нумарах «Нівы» буду чытаць аповесць Янкі Маўра «Палескія рабінзоны», а ў будучыні таксама і іншыя творы беларускай літаратуры. Мне радасна тым больш, што я жыву і працую ў горадзе Забжэ і не заўсёды магу атрымаць і чытаць творы на беларускай мове. Вельмі добра я ведаю беларускую мову, але думаю, што яшчэ лепш пазнаю беларускую літаратуру, калі Вы будзеце друкаваць у «Ніве» некаторыя творы. І не толькі я сам, напэўна і іншыя чакалі гэтага. З зацікаўленнем чытаю кожны нумар тыднёвіка «Ніва». І хаця мінула ўжо 10 год, калі я вучыўся беларускай мове, аднак я веру, што ніколі не забуду яе. Заўсёды ў вольныя хвіліны я бяруся за беларускую кніжку. Беларуская літаратура вельмі багатая і прыгожая, яна павінна гучаць не толькі на Беласточчыне.

Прашу рэдакцыю «Нівы» змясціць мой адрас у вашай газеце. Мне 23 гады. Жыву і працую зараз у Забжы. Вучуся ў вячэрнім тэхнікуме. Займаюся спортам. Вельмі хацеў бы пазнаёміцца з равеснікамі, якіх больш цікавіць беларуская мова, літаратура, творчасць, а таксама з тымі, якія могуць напісаць нешта на тэму беластоцкага спорта.

З паважаннем
**Michał Niedźwiedź**
**Zabrze, ul. 3-go Maja 122 a**
**woj. Katowice**

## УДЗЯЧНЫЯ

У вёсцы Чэхі Арлянскія закончылася камасацыя грунтаў і лугоў. Жыхары вельмі задаволены і кажуць (амаль усе), што калёніі надзелены справядліва. Яны ўдзячны народнай уладзе, што нарэшце знікла з іх палёў цераспалосіца.

*М. Панфілюк*

## ГРАМАДСКІЯ ЧЫНЫ ЧЛЕНАЎ БГКТ

У многіх вёсках Беластоцкага павета членамі БГКТ з'яўляецца перш за ўсё моладзь. Найбольш актыўна працуюць гурткі БГКТ у Скрабляках і Страшаве. Моладзь з гэтых вёсак многа працуе грамадскім чынам пры пасадцы лесу, ачыстцы дзялянак пасля вырубкі, пры пабудове спартыўных пляцовак, пры парадкаванні прыклубных і прышкольных панадворкаў і г.д. Да грамадскіх актывістаў належаць Валя Налівайка, Грыша Лісавец і Васіль Дуброўскі са Скраблякоў, Валя Грушэўская, Раман Суліма, Лідзія Антончык, Аляксандр Грушэўскі і Аляксандр Антончык са Страшава.

*Я. Цялушэцкі*

## МОЖНА РЫБУ ЛАВІЦЬ

Вёска Рудуты (Бельскі павет) вялікая, жыхары культурныя і жывуць багата. А вуліца тут вузкая, рудутаўцы яе звузілі: кожны, калі будаваўся, дык пнуўся са сваёй хатай да самага бруку. Таму так і выйшла. А які тут брук! Калі пройдзе дождж — не прайсці і не праехаць. Як кажуць, можна на вуліцы рыбу лавіць. Па калена вязкае балота. Чаму так дзеецца? Месца тут нізкае, а брук заложаны роўна з мясцовым грунтам. Трэба брук перарабіць, падняць яго на нейкіх паўметра вышэй. Тады будзе добра і людзі не будуць тапіцца на сваёй вуліцы.

*П. Дубовіч*




*Дарагое Сэрцайка!*

Мне 20 год. Жыву на вёсцы пры бацьках. На работу даязджаю ў горад. Аднойчы, будучы на забаве ў сваёй вёсцы, я пазнаёмілася з Алікам з суседняй вёскі. Я танцавала з Алікам цэлы вечар. Пад канец забавы я сказала Аліку, што выйду на некалькі хвілін на панадворак і вярнуся ізноў. Выйшаўшы з забавы, я хуценька пабегла дамоў. Зрабіла гэта таму, што мне Алік не падабаецца. Праз тыдзень я атрымала ад Аліка пісьмо. Я была вельмі здзіўлена, адкуль ён мог даведацца, як маё прозвішча. Але ён сам пісаў, што сказаў, як я называюся, яго сябра з мае вёскі. Пісаў, што я яму вельмі спадабалася і ён хацеў бы са мною сябраваць. Піша яшчэ таксама і аб тым, што ізноў прыедзе ў нашую вёску і хоча мяне адведаць. Просіць, каб я яму дала адказ. Парай, дарагое Сэрцайка, ці адказаць яму пісьмом, ці не. Мне ж ён так моцна не падабаецца, ды і наогул не маю ахвоты на ніякае сяброўства. А мо пачакаць пару год і знойдзецца такі, які сапраўды мне вельмі спадабаецца.

*Лілька*

*Лілька!* Напэўна сустрэнеш такога, які табе вельмі спадабаецца, да якога будзеш мець пачуцці. Але цяпер не ў гэтым справа, цяпер важна тое, як паступіць з Алікам: ці напісаць пісьмо і сказаць усю праўду, ці наогул не адпісаць, або ці адпісаць і не кранаць у пісьме справы: ці маеш ахвоту сябраваць ці не. Па-мойму, найлепш было б зусім не адпісваць, бо напісаць праўду не вельмі выпадае (за надта кароткае знаёмства), а ашукоўваць, прытварацца, што ён табе падабаецца, проста было б вельмі нетактоўна з твайго боку. Тады найлепш не адпісвай. Алік зразумее сам, што ты не хочаш прадаўжаць вашага знаёмства. А калі б Алік і прыехаў да вас на забаву, тады што ж, трэба пайсці танцаваць, калі Алік цябе запросіць да танца, але калі б пачынаў размову аб вашых далейшых сустрэчах, трэба сказаць Аліку праўду, толькі сказаць далікатна, каб не пакрыўдзіўся.

*Сэрцайка*



*На гайнаўскім рынку. Фота Цаф — Сянько*

## ПА СЛЯДАХ НАШЫХ ПУБЛІКАЦЫЙ

У «Ніве» ад 13 верасня пісалі мы аб недахопах у забеспячэнні школ з беларускай мовай адпаведнымі кніжкамі і падручнікамі. У адказ на гэтую нашу публікацыю сакольскі павятовы аддзел асветы, у адрас якога кіравалі мы свае заўвагі, напісаў у рэдакцыю выясненне, з якога вынікае, што сітуацыя папраўляецца. Школьныя інспектары, якія кантралююць працу школ, звяртаюць увагу на адпаведнае забеспячэнне вучняў патрэбнымі кніжкамі і падручнікамі. Аддзел сцвярджае, што падручнікамі забяспечаны вучні ў 100 працэнтах.

(ся)

Пачатак на стар. 1

## ПЛЕНУМ ГП БГКТ

*Анатоль Севасцьянюк — Саколка.*

У Сакольскім павеце дагэтуль добра развіваліся драмгурткі, але не харавыя калектывы. Мы цяпер арганізуем харавую групу. У Дуброўскім павеце праца толькі што пачынаецца вакол Ячна. Усё паказвае на тое, што і ў гэтых двух паветах у будучыні шырока разгорнецца грамадская культурная дзейнасць.

*Зофія Стаськевіч — Беласток.*

У клубе ГП у Беластоку штораз больш энтузіястаў культурнай працы. Асаблівы энтузіязм выказвае моладзь, але яна любіць моцныя гукі, а гэта якраз не падабаецца старэйшым. Многа работы мы ўжо пачалі ў клубе — работы, якая павінна змяніць профіль нашага клуба, зрабіць яго месцам прыемнага адпачынку і добрай працы.

*Яўгеній Грынявіцкі — Беласток, сакратар БТК.*

«Слухаю я вас і бачу, што праблемы мастацкага руху ўсюды аднолькавыя». Тав. Грынявіцкі падкрэсліў патрэбы ўзаемнага супрацоўніцтва аддзелаў БГКТ з рэгіянальнымі таварыствамі на Беласточчыне.

Дыскусію падсумаваў Янка Зенюк, сакратар ГП БГКТ, інфармуючы пленуму аб многіх ужо пачатых ініцыятывах і аб новых спробах паляпшэння і пашырэння працы.

(вл)

---

Былі арыштаваны сотні англічан, якія не ведалі амерыканскіх тонкасцей, але была схоплена і частка нямецкіх дыверсантаў. Салдаты саюзных войск пачалі падазрона пазіраць адзін на аднаго.

Эйзенхаўэр пакінуў фешэнебельную вілу ў Сен-Жэрмен і пераехаў у версальскі Трыанон, ператвораны ў маленькую крэпасць. З усіх бакоў паступалі данясенні аб з'яўленні чалавека са шрамам на левай шчацэ — Скарцэні. Прайшлі чуткі, што перад рашаючым ударам Скарцэні збярэ сваіх дыверсантаў у «Кафэ дэ ля пэ». У Парыжы было забаронена з'яўляцца на вуліцах пасля васьмі гадзін вечара. Парушальнікі забароны падвяргаліся арышту. Амерыканцы акружалі «Кафэ дэ ля пэ» і старанна правяралі ўсіх, хто ўваходзіў і выходзіў.

Без ведама Эйзенхауэра контрразведка падрыхтавала пастку для Скарцэні. Ураджэнец Чыкага, палкоўнік Болдуін Сміт быў вельмі падобны на галоўнакамандуючага. Ён штодзённа ездзіў з вілы ў Сен-Жэрмен у Версаль на добра вядомым «пяцізоркавым» службовым аўтамабілі Эйзенхауэра. Сміт спакойна сядзеў на заднім сядзенні, усміхаючыся ўсім, хто яго вітаў, і ў любы момант чакаў выбуху гранаты або аўтаматычнай чаргі.

27 снежня Скарцэні быў гатовы да нападзення на Версаль. Ён адабраў 12 дыверсантаў, якія павінны былі скласці яго «канвой». З незамкнутымі наручнікамі яго павінны былі прывезці ў штаб амерыканцаў. Але перш чым яны рушылі ў дарогу, паступіла паведамленне, што Эйзенхауэр выехаў у Рэймс. Скарцэні неадкладна змяніў план і вырашыў ажыццявіць нападзенне не на стаўку, а на аўтамабіль галоўнакамандуючага, перахапіўшы яго дзе-небудзь у дарозе. Для засады ён выбраў месца ля шашы перад паваротам на Версаль. Аб далейшым чытачу ўжо вядома з пачатку расказу. Падпалкоўнік Сміт і ўсе, хто быў з ім у аўтамабілі, загінулі.

Калі наступленне немцаў у Ардэнах правалілася, Скарцэні з уцалелымі дыверсантамі вярнуўся ў Германію. Гітлер узнагародзіў яго жалезным крыжам і заявіў, што прычынай няўдачы немцаў у Ардэнах з'явілася ўстарэлае ўзбраенне і дрэннае надвор'е.

## АМАТАРЫ ЯЗДЫ

Павятовы аддзел ЛОК-а ў Гайнаўцы арганізаваў у Дубічах Царкоўных матацыклетна-самаходны курс. Запісалася на яго 20 асоб. Гэта ў асноўным моладзь з Дубіч Ц. і суседніх вёсак, такіх, як Грабавец, Тафілаўцы, Ялёнка, Карыціскі і Існок. Заняткі праводзіць інструктар з Гайнаўкі. Адбываюцца яны вечарамі ў будынку ГРН. Курс закончыцца ў лістападзе і ўдзельнікі яго, пасля здачы экзаменаў, атрымаюць права вадзіць матацыкл і самаход.

Трэба адзначыць, што ў нашай ваколіцы прафесія шафёра карыстаецца вялікай папулярнасцю.

*М. Панфілюк*

## СПАРТСМЕНКІ З ОРЛІ



Мы ўжо не раз падкрэслівалі, што ў школе ў Орлі (Бельскі павет) на высокім узроўні стаіць спорт. Сёння змяшчаем здымак арлянскіх спартсменак, зробленых ў часе спаборніцтва ў Беластоку.

Фота: В. Касакоўскі

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**КЛЯШЧЭЛІ**
„Nikt nie rodzi się żołnierzem" (radz.), 27—28.X. „Był sobie dziad i baba" (radz.), „Kaukazka branka" (radz.), 31.X.—1.XI.

**ДУБІНЫ**
„Marynarz Czyżyk" (radz.), „Aktorka księcia pana" (radz.), 31.X.—1.XI.

**НАРАЎКА**
„Naczelnik Czukotki" (radz.), „Burzliwa młodość" (radz.), 28.X.—1.XI.

**НАРВА**
„Tajemniczy mnich" (radz.), „Babcia, dziadkowie i ja" (radz.), 28.X.—1.XI.

**ЧЫЖЫ**
„Burzliwa młodość" (radz.), „Statek odpływa o świcie" (radziecki), 28.X.—1.XI.

**ДУБІЧЫ ЦАРКОЎНЫЯ**
„Szerszeń" (radz.), „Szesnasta wiosna" (radz.), 28.X.—1.XI.

**АРЭШКАВА**
„Daleki ukochany" (radz.), „Dom na rozstajach" (radz.), 31.X.—1.XI.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**БОЦЬКІ**
„Słońce świeci dla wszystkich" (radz.), „Dwaj w stepie" (radz.), 28.X.—1.XI.

**ОРЛЯ**
„Biała karawana" (radz.), „Słońce świeci dla wszystkich" (radz.), 28.X.—1.XI.

**РАЙСК**
„Bariera ognia" (radz.), „Klęska" (radz.), 28.X.—1.XI.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**МІХАЛОВА**
„Grymasy" (węg.), 27—28.X. „Dywersanci" (jugosł.), 29.—30.X. „Rozbójnicy sycylijscy" (włoski), 31.X.—1.XI.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**КРЫНКІ**
„Nie smuć się" (radz.), 27—28.X. „Szybsza od wiatru" (radz.), 29—30.X. „Taszkient miasto chleba" (radz.), 31.X.—1.XI.

**ЯНАЎ**
„Wkrótce nadejdzie wiosna" (radz.), 28.X.—1.XI.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**НУРЭЦ**
„Ambicja" (radz.), 27—28.X. „Koledzy' '(radz.), 29—30.X. „Królowa stacji benzynowej" (radz.), 31.X.—1.XI.

**МЕЛЬНІК**
„Kaukazka branka" (radz.), 27—28.X. „Nikt nie chciał umierać" (radz.), 29—30.X. „Ambicja" (radziecki), 31.X.—1.XI.

**МІЛЕЙЧЫЦЫ**
„Dialog" (węg.), 27—28.X. „Che/ Opowieści o Gueverze" (włoski), 29—30.X. „Bumerang" (polski), 31.X.—1.XI.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**СУХАВОЛЯ**
„Nie smuć się" (radz.), „Gdzie jesteś Maksymie" (radz.), 28.X.—1.XI.

**НОВЫ ДВОР**
„Szósty lipca" (radz.), Ach te dzieci" (radz.), 31.X.—1.XI.

**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

BZGraf. Nakład 7085 W-4



 

## ВОСЬ ТАКАЯ ТРАГЕДЫЯ

Анюта сказала, што выйдзе замуж толькі за чалавека моцнага, смелага і грамадскага работніка.

Я стаў армоўцам.

Праз дзень да мяне падышоў Адам, камандзір дружыны:

— Можа, падзяжурыш?

— Не хочацца... Лепш у другі раз...

— Не. Ты адзін застаўся. Усе, акрамя цябе і Гузікава, дзяжурылі. Але ў Гузікава вяселле.

Я не пайшоў дзяжурыць. У мяне таксама было вяселле. Анюта стала нарэшце жонкай моцнага, смелага мужчыны, грамадскага работніка.

Потым мне даводзілася часта дзяжурыць: усе астатнія супрацоўнікі нашага аддзела былі занятыя «па ўважлівых прычынах». І я ўсіх замяняў. Я стаў рэдка бываць дома. Мне гэта надакучыла.

Сёння зноў падышоў Адам.

— Мо, падзяжурыш? Разумееш, Адаркіна дзіця чакае не дачакаецца... У Зайцавай таксама нарадзілася дзіця...

Праз месяц і ў мяне з'явілася дзіця.

— Можа, падзяжурыш?

— Не магу! — узрадаваўся я. — У мяне дзіця.

— Трэба. Ты адзін у нас... У Зайцавай, разумееш, двое дзяцей.

Праз год у мяне нарадзілася яшчэ дзіця.

— Трэба падзяжурыць, — кажа Адам.

— А ў мяне двое дзяцей!

— Адаркіна, разумееш, займаецца на курсах крою і шыцця. А ты...

Я паступіў на курсы крою і шыцця. Потым я запісаўся на лекцыі для будучай маці, у гурток танцаў «умелыя ногі», у таварыства садзейнічання маладым і зялёным насаджэнням.

Так мне нарэшце ўдалося вызваліцца ад дзяжурства. Праўда, я зусім не бываю дома: трэба наведаць усе месцы, куды я запісаўся. А ўчора Анюта сказала, што пакідае мяне. І дзяцей забірае. Вось такая трагедыя!

Уяўляеце, калі ў мяне цяпер не будзе дзяцей, зноў жа прыйдзецца дзяжурыць, га?

*Анатоль Савянюк*





— *Браткі, дык гэта ж нашы!*




НА ТЫМ СВЕЦЕ



— *Пачынайце ўжо атапляць, холадна!*
— *А мы рыхтуемся да зімы вашымі метадамі...*

### Талаваломка



Прадстаўлены на рысунку пяцівугольнік складаецца з многіх трохвугольнікаў рознай велічыні. Паспрабуйце іх падлічыць.

* * *

*Адказ на заданне з папярэдняга нумара.*



### АДКРЫЦЦІ

Эйнштэйна неяк спыталі, як на яго думку, з'яўляюцца адкрыцці, якія здзіўляюць свет.

— Вельмі проста, — адказаў вучоны. — Усе ведаюць, што зрабіць гэта немагчыма. Але знаходзіцца адзін дзівак, які гэтага не ведае. Вось ён і робіць адкрыццё.

### УСЁ Ў ПАРАДКУ

Два кампаньёны вялікай гандлёвай фірмы сядзяць за вячэрай у рэстаране. Раптам адзін з іх ускоквае:

— О, Бог мой, я забыўся зачыніць сейф!

— Супакойся, — сказаў другі, — мы ж абодва знаходзімся тут.

### АБАЖУР ДЛЯ ЛЯМПЫ

Спаткаліся два габраўцы.

— Ты куды? — спытаў адзін.

— Ды хачу знайсці абажур для лямпы.

— А чаму ты не купіш меней яркую лямпачку?

### ГАРАЧАЕ КАХАННЕ

Закаханы клянуся дзяўчыне:

— Клянуся жонкай і дзецьмі, што я халасцяк.

### У ПАРЫЖЫ

Парыжанін праводзіў жонку ў аэрапорт і пасадзіў яе на самалёт да Нью-Йорка. Затым ён сеў у свой аўтамабіль, і, з цяжкасцю прабіраючыся праз запружаныя транспартам вуліцы Парыжа, дабраўся дадому. На стале ляжала тэлеграма ад жонкі: «Даляцелі добра. Цалую. Мары».

### У ШКОЛЕ

У школе задалі сачыненне на тэму «Мае бацькі». Дзевяцігадовы хлапец напісаў: «Бацькі нам дастаюцца ў такім узросце, што ад многіх звычак нам ужо не ўдаецца іх адвучыць».

### У РЭСТАРАНЕ

— Афіцыянт, у гэтай курыцы адна нага карацейшая за другую!

— Ну і што ж! Вы ж не збіраецеся танцаваць з ёй!





*Два вымярэнні*

ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Галіны М. з Бельска і Галіны Чэмель з Гарадка, Беластоцкага павета, змяшчаем песню:

## KAMIENNE SCHODKI Z MŁODZIEŃCZYCH LAT

Słowa: J. Lewiński
Muzyka: J. Kępski



Cieple wesołe ciągle niezmienne
Kamienne schodki Starego Miasta
porosły baśnią, porosły pieśnią (bis)
rozmów wszelkich z pamięci własnej (bis)

Kamienne schodki Brzozowa-Bugaj,
Kamienne schodki, dzwonów pacierze,
kiedy wychodzisz, wpadasz w zaułek (bis),
harmonii dźwięki wychodzą skoczne (bis)

I znów cię kusi jasna dziewczyna
a ty jej śpiewasz, dolewasz wina,
przebrzmiałe zwrotki, Kamienne schodki (bis)
zostaną w naszej pamięci zawsze (bis).

## ДОБРЫ СРОДАК

*(Паводле народнага жарту)*

Залясянскі Юрка Жых
У навуку «ўпргося»,
Нахапаўся слоў чужых,
Ад сваіх адрокся.

На паўметра адпусціў
Бараду, прычоску
Ды паехаў пагасціць
Да матулі ў вёску.

Ён любому здацца мог
Кветкай крыміналу:
Як ступіў цераз парог,
Маці ледзь пазнала.

Супрацьсонечныя не здзеў
Акуляраў з носа,
Паварнуўся, паглядзеў
У закутак коса.

На крывую качаргу
Паказаў рукою:
— Нат успомніць не магу,
Што гэта такое.

Папяросу ўзяў, пачаў
Пстрыкаць запальнічкай.
— Ты б з пячурачкі дастаў

Лепш, сынок, сярнічкі, —

Раіць маці Юрасю,
Той расправіў плечы,
Шмаргануў па валассю
І ступіў да печы.

Нос задраўшы, лезе ў кут,
У пячурцы шнарыць,
Толькі раптам штосьці тут
Плясь па акулярах.

Ва ўсё горла, што мага,
Крыкнуў ачмурэла:
— А бадай ты, качарга,
З чаранком згарэла,

Маці, ведама, шкада,
Што набіў гузяку,
Толькі кажа: — Не бяда,
Качарзе падзякуй.

Каб зароксі ты, сынок,
Выракацца роду,
Качарэжкін чаранок
Вельмі добры сродак.

*Пятро Сушко*

### ЦІКАВА

— Тата, а праўда, што чырвоны колер твару — прыкмета добрага здароўя?

— Так.

— Вось цікава, я ўчора сустрэў Сціпана, у яго адзін бок твару быў здаравейшы за другі.

### У ТУРМЕ

Наглядчык турмы:

— Што гэта да цябе не прыходзяць на сустрэчу? Няўжо ў цябе няма прыяцеляў і сябраў?

— Ёсць, але ўсе яны тут, у турме.

### ЯК

— Мой сабака выратаваў мне жыццё.

— Як гэта здарылася?

— Я быў хворы, а ён не даў лекару ўвайсці ў хату.

### ЧАМУ

Аднаго гультая спыталі:

— Чаму ты колеш дровы седзячы?

Гультай адказаў:

— А я ўжо прабаваў ляжачы — нязручна.



*Пасля мільёна званкоў...*




### СВЯТА ПРЭЦЭСІІ

У выніку таго, што Зямля не шар і сціснута з полюсаў, а плоскасць зямнога экватара не супадае з плоскасцю зямной і месяцавай арбіт, прыцягненне Сонца і Месяца прымушае зямную вось павольна павapочвацца ў прасторы (як вось ваўчка), апісваючы на 26 тыс. год конус. Гэта з'ява была ўстаноўлена яшчэ ў II стагоддзі да нашай эры грэчаскім астраномам Гіпархам і атрымала назву прэцэсіі (апярэджвання) раўнадзенстваў.

У далёкім мінулым людзі лічылі, што пасля заканчэння «сусветнага года» на Зямлі паўтараюцца тыя ж гістарычныя факты, тыя ж умовы жыцця, якія былі 30 тысяч гадоў назад. У адпаведнасці з гэтай гіпотэзай К. Фламарыён у «Папулярнай астраноміі» прыводзіць наступны анекдот:

«Студэнты, якія толькі што скончылі універсітэт, сабраліся за развітальным абедам. Разгаварыліся пра «вялікі год» і пра тое, як прыемна зноў сустрэцца праз 30.000 гадоў.

Гаспадар рэстарана, у якім праходзіў абед, прыняў удзел у размове і, са свайго боку, выказаў некалькі глыбока філасофскіх поглядаў, а таксама выказаў сваю радасць з прычыны сустрэчы, якая адбудзецца праз 30.000 гадоў.

Калі абед закончыўся, студэнт, якому была даручана расплата, звярнуўся да гаспадара з просьбай адтэрмінаваць разлік да наступнага спаткання. Гаспадар ахвотна згадзіўся, але тут жа дадаў: «Значыць, па-вашаму выходзіць, што 30.000 гадоў назад мы таксама збіраліся тут і пры такіх жа ўмовах? У такім разе заплаціце, калі ласка, мне за той абед, які адбыўся 30.000 гадоў назад і за які вы мне не заплацілі, а грошы за гэты абед я, так і быць, пачакаю да наступнага спаткання».




*Чорт ніколі не дрэмле, нават на сходах.*